


"Каб усе былі адно" (Ян 17, 21)

# Царква

№ 4 (27), 2000 КАЛЯДЫ

## Новы Прэфект Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў

Сьвяты Айцец Ян Павел II 25 лістапада 2000 году прызначыў новага Прэфекта Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў (ёй сёньня непасрэдна падпарадкавана Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква). Ім стаў Яго Блаславенства Ігнат Майсей I Дауд (Ігнатыяс Муса I Дауд) — да апошняга часу Патрыярх Антыяхійскі Сірыйскай Каталіцкай Царквы, які зьмяніў на гэтай пасадзе кардынала Ахілеса Сільвестрыні.

Новы Прэфект нарадзіўся ў 1930 годзе ў мясцовасьці Месканэ архіепархіі Гомс у Сірыі. У 1954 годзе прыняў сьвятарскія сьвячаньні. У 1977 годзе Сінодам Біскупаў Сірыйскай Каталіцкай Царквы быў абраны на біскупа Каіру (Ягіпет) для сірыйскіх католікаў. На Патрыярха Антыяхійскага Сірыйскай Каталіцкай Царквы Сінод Біскупаў абраў яго 13 кастрычніка 1998 году.

Яго Блаславенства Ігнат Майсей I зьяўляецца экспертам па кананічным праве і добра ведае Цэрквы Ўсходняй Еўропы, знаёмы ён і з кіраўніцтвам нашай Царквы — з айцом Апостальскім візітатарам для грэка-католікаў Беларусі архімандрытам Сяргеем Гаекам. Апошняя сустрэча іх адбылася на сьвята Тройцы ў Амстэрдаме (Галяндыя) 11 чэрвеня 2000 году і была добрай нагодай паразмаўляць пра жыцьцё і дзейнасьць БГКЦ.

*Шчыра віншуем усіх вернікаў, нашых дабрачынцаў і сяброў*

*З РАСТВОМ ХРЫСТОВЫМ*

*і Новым Тысячагоддзем!*

*Вясёлых Калядаў!*

*Ватыкан, 25.11.2000. Рымскі Архірэй Ян Павел II перадае патрыярху Ігнату Майсею I прызначэньне на пасаду Прэфекта Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў.*



# Пастырскае Слова

## Апостальскага візітатара «ad nutum Sanctae Sedis» для грэка-católікаў Беларусі на Божае Нараджэньне Году Юбілейнага – 2000



Вялебныя Айцы!
Дарагія Манахі, Манашкі і Семінарысты!
Любыя ў Госпадзе Браты і Сёстры!
Шаноўныя Сябры!

*Слова целам сталася*
*і пасялілася між нас,*
*і бачылі мы славу Яго.*
*Ян 1, 14*

1 Радасная і парадаксальная навіна пра тое, што Спрадвечнае Слова Божае прыняло цела чалавечае, ужо дзьве тысячы гадоў абвяшчаецца сьвету. Гэтую навіну анёлы найперш пасярод ночы абвясьцілі пастухам, якія вартавалі свой статак пад Бэтлеемам (пар. Лк 2, 8-12). Затым гэтая радасная навіна дасягнула мудрацоў, якія прыбылі ў Бэтлеем, каб пакланіцца Нованароджанаму Дзіцятку Ісусу (пар. Мц 2, 1-11). Гэтае Дзіцятка Ісус — Уцелаўлёны Сын Божы, Збаўца сьвету.

У кожнае сьвята Божага Нараджэньня сьвятая Царква асэнсоўвае і праслаўляе гэтую парадаксальную таямніцу нараджэньня Спрадвечнага Сына Божага ва ўбогай стайні. Сутнасьцю гэтай парадаксальнай таямніцы ёсьць тое, што Бог пасяліўся пасярод свайго люду.

Таямніца Ўцелаўленьня Сына Божага — гэта ня нейкая далёкая гісторыя. Ісус Хрыстос таксама і сёньня жыве сярод свайго люду і надае сэнс гісторыі кожнага чалавека і кожнага народу. Толькі Ён можа вывесьці нас з цемры маны да сьвятла Праўды, бо Ён сам ёсьць Сьвятло (Ян 1, 9). Ён заклікае нас, каб мы жылі ў сьвятле, гэта значыць любілі нашых братоў і сясьцёр.

Такі на самой справе ёсьць найглыбейшы сэнс Юбілейнага Году, які ўжо набліжаецца да свайго заканчэньня: жыць у сьвятле Праўды ды ў свабодзе ад злога. Гэта таксама і заданьне на будучыню.

Сёньня, калі мы набліжаемся да завяршэньня Юбілейнага Году, з вялікай радасьцю прагну перадаць усім вам — духавенству, семінарыстам, манахам і манашкам, усім вернікам і сябрам нашай Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы — сьпецыяльнае юбілейнае Апостальскае блаславенства Яго Сьвятасьці Яна Паўла II.

2 Абвяшчаць Евангельле Праўды і свабоды — гэтую задачу даверыў Ісус Хрыстос Сваёй сьвятой Царкве, жывой часьцінкай якой павінен быць кожны з нас. Натуральнай часьцінкай Царквы Ісуса Хрыста зьяўляецца хрысьціянская сям'я. Кожная такая сям'я на самой справе ёсьць «хатняя Царква». Таямніца нараджэньня Ісуса Хрыста ў Сьвятой Сям'і Язэпа і Марыі з Назарэту пралівае новае сьятло на годнасьць кожнай сям'і.

Гэтая годнасьць сям'і сёньня ў нашым грамадзтве знаходзіцца пад вялікай пагрозай, і таму ўсе мы паклікаы да падтрымкі сем'яў у Беларусі нашай малітвай, каб яны маглі быць агеньчыкамі, у якіх дзеці вучацца любові да Бога, да людзей, да Айчыны, да роднае мовы і культуры. Няхай час Божага Нараджэньня Юбілейнага Году дазволіць нам нанова адкрыць тое вялікае пакліканьне кожнай сям'і ў нашай Бацькаўшчыне.

Таямніца Ўцелаўленьня Ісуса Хрыста нясе сьвету праўду пра тое, што Бог хоча быць прысутны ў кожнай людзкой справе: у працы і культуры, у асабістым, сямейным, грамадзкім, палітычным і эканамічным жыцьці чалавека, у якім мусяць шанавацца Ягоныя сьвятыя Прыказаньні. Толькі такім ёсьць шлях да рэальнага духоўнага адраджэньня нашай Бацькаўшчыны. Абвяшчэньне гэтай праўды зьяўляецца заданьнем хрысьціянаў. Нашая Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква ўжо больш за дзесяць гадоў (з часу, калі змагла выйсьці з падпольля) імкнецца публічна абвяшчаць гэтую праўду.

На працягу мінулых месяцаў мы імкнуліся асаблівым чынам падзякаваць Богу за 10 гадоў публічнае дзейнасьці нашае Царквы ў Беларусі. Асаблівае значэньне мела сьвяткаваньне нашага 10-гадовага юбілею ў рамках Юбілейнага Году, які ўрачыста адзначалі сёлета сумесна з рыма-каталіцкай Віцебскай дыяцэзіяй 11 і 12 лістапада ў Полацку і Віцебску. Яго Эксцэленцыі богалюбнаму Біскупу Віцебскаму Ўладзіславу Бліну і ўсім, хто ў тыя дні быў з намі, выказваем нашую шчырую падзяку. Няхай Бог вам усім аддзячыць!

Нашую ўдзячнасьць выказваем таксама высокім прадстаўнікам іншых памесных Цэркваў, асабліва — Усходніх Каталіцкіх Цэркваў з усяго сьвету, якія даслалі нам свае віншаваньні і зычэньні з нагоды нашага падвойнага Юбілею. Умацаваныя багатай ласкай Госпада, хочам быць праўдзівымі сьведкамі Ягонага Дабравешчаньня ў Трэцім Тысячагоддзі.

3 Дарагія ў Госпадзе Браты і Сёстры!
Нашая Ўсходняя Каталіцкая Царква ў Беларусі ёсьць адной са шматлікіх Усходніх Каталіцкіх Цэркваў у супольнасьці Паўсюднае Царквы, якую ўзначальвае Яго Сьвятасьць Ян Павел II. Як вы ўжо ведаеце, Сьвяты Айцец Ян Павел II 25 лістапада 2000 году прызначыў новага Прэфекта Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў. Ім стаў Яго Блаславенства Ігнат Майсей I Дауд, які да гэтага часу быў Патрыярхам Антыяхійскім Сірыйскай Каталіцкай Царквы.

Новы Прэфект нарадзіўся ў 1930 годзе ў Сірыі. У 1954 годзе прыняў сьвятарскія сьвячаньні. Працаваў сярод сірыйскіх католікаў у Сірыі ды Ягіпце. Сінод Біскупаў Сірыйскай Каталіцкай Царквы абраў яго на Патрыярха 13 кастрычніка 1998 году. Яго Блаславенства Ігнат Майсей I — эксперт у кананічным праве, добра ведае Цэрквы Ўсходняе Еўропы, у тым ліку і нашую Царкву, пра якую я меў магчымасьць расказваць яму некалькі разоў.

Як Прэфект Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў, Яго Блаславенства Ігнат Майсей I зьяўляецца таксама нашым Ардынарыем, якога мы ўспамінаем у нашай літургічнай малітве. Прашу вас усіх памятаць пра яго таксама і ў вашых асабістых малітвах,

каб Госпад надзяліў яго здароўем ды шматлікімі ласкамі ў служэньні ўсім Усходнім Каталіцкім Цэрквам.

Да служэньня Ўсходнім Каталіцкім Цэрквам новы Прэфект прыходзіць як прадстаўнік антыяхійскае літургічнае традыцыі, у якой знаходзяцца таксама карані і візантыйскае літургічнае традыцыі. Гэты факт зьяўляецца для нас заклікам да больш вернага захоўваньня нашай візантыйскай літургічнай традыцыі, бо яна зьяўляецца настаўнікам нашага духоўнага жыцьця. Яна сапраўды поўная біблійнага духу ды цытатаў з навучаньня сьвятых Айцоў Царквы. Таму мы павінны ўсё больш і больш асэнсоўваць ды духоўна паглыбляць нашую традыцыю і стаць яе сьведкамі ў Трэцім Тысячагоддзі. Найлепшым шляхам у гэтым напрамку будзе, натуральна, наш усё больш і больш жывы ды руплівы ўдзел у Сьвятой Літургіі ў кожную нядзелю.

У гэты сьвяточны час хачу таксама паведаміць вам усім пра іншую важную падзею ў жыцьці Ўсходніх Каталіцкіх Цэркваў. Сінод Біскупаў Грэка-Мельхіцкай Каталіцкай Царквы 29 лістапада 2000 году абраў новага мельхіцкага Патрыярха Антыёхіі. Ім стаў архібіскуп Лутфі Лахам, які прыняў імя Рыгор III. Да гэтага часу ён зьяўляўся патрыяршым вікарыем Ерусаліму. 5 сьнежня 2000 году Сьвяты Айцец Ян Павел II пераслаў новаабранаму Патрыярху сьпецыяльны ліст як выраз «царкоўнае сулучнасьці» (*communio ecclesiastica*). Новы Патрыярх добра знаёмы з Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквой і яе жыцьцём. Яшчэ ў якасьці патрыяршага вікарыя Ерусаліму архібіскуп Лутфі Лахам арганізаваў Сімпозіюм грэка-каталіцкіх ярархаў Эўропы 4-6 ліпеня 2000 году ў Ерусаліме, у якім я меў магчымасьць удзельнічаць як прадстаўнік нашае Царквы.

Грэка-Мельхіцкая Каталіцкая Царква — гэта вельмі жывая і дынамічная Царква (у Сьвятой Зямлі яна самая шматлікая). Яе вернікі знаходзяцца на Блізкім Усходзе, а таксама ў шмат якіх іншых краінах Эўропы, у ЗША, Паўднёвай Амерыцы ды Аўстраліі. Гэтая Царква аказвае вялікую маральную падтрымку іншым Усходнім Каталіцкім Цэрквам ды актыўна ангажуецца ў экуменічны дыялог з Праваслаўнай Царквой, асабліва Антыяхійскага Патрыярхату. Новаму Патрыярху — Рыгору III — жадаем усяго добрага ад Госпада ў Ягоным служэньні.

Вялебныя Айцы, любыя ў Госпадзе Браты і Сёстры, дарагія Сябры!

Новы 2001 год, надыход якога сьвяткуем у часе Божага Нараджэньня, уводзіць нас у Трэцяе Тысячагоддзе. У гэтай сувязі варта ўзгадаць словы Сьвятога Айца Яна Паўла II з ягонай булы «Таямніца Ўцелаўленьня»:

*«Уваход у новае Тысячагоддзе запрашае ўсіх хрысьціянаў, абвяшчаючы Божае Валадарства, ахапіць позіркам веры новыя, больш шырокія далягляды».*

Сапраўды, як хрысьціяне мы пакліканы, каб адважна, з верою ды надзеяй глядзець у будучыню і шукаць магчымасьці плённа і радасна абвяшчаць Евангельле Ісуса Хрыста.

Няхай Таямніца Божага Нараджэньня — Таямніца Ўцелаўленьня Слова Божага, будзе для нас крыніцаю адважнае надзеі.

Зьяднаны з вамі ў малітве, вітаю вас усіх традыцыйным:

*Хрыстос нараджаецца — славім Яго!*

Рым-Менск,
РАСТВО ХРЫСТОВА 2000 ГОДУ

+ архім. Сяргей Гаек

архімандрыт Сяргей (ГАЕК), візітатар

# *Найперш трэба шукаць* ПРАЎДЫ



*Калядныя разважаньні дэкана БГКЦ а. Віктара ДАНІЛАВА*

Раство Хрыстова — знакавая падзея ў гісторыі чалавецтва. 2000 гадоў тагачасны сьвет ляжаў маральна зьнішчаны: рабства, насільле, ганарлівасьць, сквапнасьць і жорсткасьць уладарылі ў тым антычным сьвеце.

Дзякуючы дзейнасьці Хрыста — прыкладу Ягонага жыцьця, Ягонай збаўчай ахвяры і закліку людзей да пакаяньня,— а таксама праз дзейнасьць Ягонай Царквы Раство Хрыстовае сталася падзеяй, якая запачаткавала маральнае адраджэньне чалавецтва.

У чым галоўны зьмест хрысьціянскай навукі? Яшчэ ў апостальскія часы адзін з язычнікаў запытаўся пра гэта ў апостала Пятра: «Скажы, у чым вашая праўда? Грэцыя дала сьвету вучонасьць і прыгажосьць мастацтва. Рым даў правасьвядомасьць (дзякуючы рымскаму праву) і сілу. А што даеце вы?» Апостал Пётр адказаў: «Мы прыносім любоў!»

І паступова, трымаючыся навукі Хрыстовай, чалавецтва ў многіх краінах хрысьціянскай цывілізацыі маральна ўздымалася, расло. Яно вызвалілася ад рабства, прыніжэньня жанчыны, яно здабыло асьвету, скіравалася на шлях вызваленьня ад станавых і класавых прывілеяў, дасягнула значных здабыткаў у духоўнай і матэрыяльнай культуры. Краіны хрысьціянскай традыцыі шмат у чым сталі лідарамі сучаснага сьвету.

Але сёньня, па цэлым шэрагу прычынаў, чалавецтва зноў перажывае маральны крызіс. Шмат дзе людзі згубілі жывую веру ў Бога, прагналі Хрыста з дзяржаўных і грамадзкіх установаў, а некаторыя нават з уласнага жыцьця. Важныя рашэньні прымаюцца без Бога, без малітвы. У многіх краінах хрысьціянскую рэлігію адно толькі церпяць. А ці мала людзей, якія толькі называюцца хрысьціянамі, бо жывуць як тыя, што ня вераць у Хрыста! І, як вынік, чалавецтва перажывае ўсеагульны крызіс. Для нас і ўсіх усходніх славянаў гэты крызіс выяўляецца ў сінтэтычным паказчыку — у біялагічным выраджэньні людзей, бо маем адмоўны паказчык прыросту насельніцтва і масавасьць розных захворваньняў сярод насельніцтва. Асноўная прычына гэтага — страта веры ў Бога і невыкананьне Ягоных прыказаньняў, якія былі дадзены Ўсявышнім чалавеку. Дык што ж рабіць?

Найперш трэба шукаць праўды. Як сказаў Хрыстос, «шукайце найперш Валадарства Божага і праўды яго», і тады ўсё астатняе «будзе дададзена вам» (Мц 6, 33). Але нашае пакаленьне ў лепшым становішчы, чым нашыя продкі, і нам няма патрэбы нанова «вынаходзіць ровар» — шукаць няведама дзе праўду. Яна ля нашых ног — абылганая дзесяцігоддзямі атэістычнае прапаганды ў часы бальшавіцкай дыктатуры. Гэтая праўда — хрысьціянская вера. Падніміце ж яе! Прыміце яе ўсёй сваёй душой і ідзіце за Хрыстом, за Яго навукай!

Таксама трэба ўсьвядоміць, што ва ўмовах высокіх тэмпаў сучаснага тэхнічнага разьвіцьця і пры падзеньні нормаў маралі рэлігія ня можа заставацца толькі прыватнай,

Працяг на с.10 ⇨

Падпісны індэкс 63205

## У Беларусі

### ПРЭСАВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ «ХРЫСЬЦІЯНСТВА НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ»

У Менску ў грамадзкім прэс-цэнтры адбылася прэсавая канферэнцыя на тэму «Хрысьціянства на мяжы стагоддзяў». Дырэктар Нацыянальнага навукова-асьветнага цэнтру імя Скарыны Любоў Уладыкоўская-Канапляннік выступіла з дакладам «Узьдзеяньне хрысьціянства на сучаснае грамадзтва (аб рэалізацыі грамадзкай праграмы «Хрысьціянства-2000»)». Дакладчыца зазначыла, што Беларусь ёсьць унікальнай краінай у плане поліканфэсійнасьці, падкрэсьліла сувязь хрысьціянскага адраджэньня з адраджэньнем нацыянальным і асаблівую ролю Уніяцкай Царквы ў ім.

### КАТАЛІЦКІЯ БІСКУПЫ БЕЛАРУСІ СКЛАЛІ АКТ ПАДЗЯКІ, ПЕРАПРАШЭНЬНЯ І ПРАБАЧЭНЬНЯ

Навучаныя словамі Сьвятога Айца Яна Паўла II, які моліцца, каб вучні Хрыста, «ачысьціўшы памяць і прызнаўшы уласныя правіны, сталіся адным», рыма-каталіцкія біскупы Беларусі склалі публічны Акт падзякі, перапрашэньня і прабачэньня. У ім яны робяць гістарычны рахунак сумленьня Рыма-Каталіцкай Царквы ў Беларусі. Біскупы дзякуюць Богу за ўсе ласкі і за ўсё дабро, якое Ён учыніў для Беларусі, а таксама просяць прабачэньня за грахі, слабасьці і памылкі ўсіх сыноў і дачок Рыма-Каталіцкай Царквы, незалежна ад часу і нацыянальнасьці. Адначасова біскупы гавораць і аб прабачэньні тых, хто правініўся перад дзецьмі Каталіцкай Царквы.

### ПРАТЭСТАНЦКАГА ПАСТАРА ПАКАРАЛІ ШТРАФАМ

Суд Ленінскага раёну Берасьця прызнаў пратэстанцкага пастара Аляксандра Барана вінаватым у парушэньні правілаў арганізацыі і правядзеньня сходу. На сёньняшні дзень гэта адно з самых сур'ёзных пакараньняў, пад якое за апошні час траплялі прадстаўнікі рэлігійных супольнасьцяў Беларусі. 27 і 29 кастрычніка пастар правёў сходы, прысьвечаныя 2000-годдзю хрысьціянства, у актавай залі аб'яднаньня «Брэстаблпрамбуд», у той час як зрабіць гэта яму было дазволена зусім у іншым памяшканьні. Дапытаны ў судзе Аляксандр Баран патлумачыў, што сапраўды зьяўляўся арганізатарам сходу, у якім прымаў удзел прапаведнік з ЗША, а месца правядзеньня сходу зьмяніў таму, што раней замоўленая зала рачнога порту не змагла зьмясьціць усіх жадаючых. Праз два тыдні пасьля правядзеньня канферэнцыі Аляксандр Баран быў выкліканы ў гарвыканкам, дзе на яго склалі пратакол аб адміністрацый- ным праваапарушэньні і пакаралі на 540 тысячаў рублёў.

### КРЫЖ У ЦЭНТРЫ ГОРАДНІ

У ноч з 28 на 29 лістапада ў цэнтры Гародні ў скверы ля Палацу тэкстыльшчыкаў, дзе стаяў некалі першы ў горадзе касьцёл - Фара Вітаўта - быў пастаўлены вялікі чатырохметровы драўляны крыж з бел-чырвона-белымі стужкамі. На ім прымацаваная шыльдачка з надпісам: «На гэтым месцы ў 1961 годзе была ўзарваная Сьвятыня Зямлі Нашай - Фара Вітаўта, помнік архітэктуры XIV-XVI ст. Варварства зьдзейсьненае камуністычным рэжымам. Мы верым, што крыжы касьцёлу ўзьнясуцца над нашым горадам». 29 лістапада крыж быў асьвячаны сьвятаром з Фарнага касьцёлу і адбыўся малебен. Але ўжо ўвечары 30 лістапада крыж зьнік. Крыж быў пастаўлены менавіта ў той самы дзень, калі 39 гадоў таму касьцёл узарвалі паводле загаду ўладаў.

### ВЕРНІКІ ПРАТЭСТАНЦКІХ ЦЭРКВАЎ ПАТРАБУЮЦЬ ПРАБАЧЭНЬНЯЎ

У дакуманце, распаўсюджаным аб'яднаньнем грамадаў хрысьціянаў поўнага Евангельля ў Беларусі, адзначаецца, што апошнім часам дзяржаўныя СМІ разгарнулі кампанію, скіраваную на фармаваньне негатыўнага стаўленьня да грамадзянаў - хрысьціянаў пратэстанцкіх канфесіяў. У прыватнасьці адзначаецца, што праграмы «Рэзананс» Беларускага тэлебачаньня і «Размова па сутнасьці» Беларускага радыё, а таксама серыя публікацыяў у «Народнай газеце» паказваюць хрысьціянаў-пратэстантаў «ворагамі народа, вылюдкамі, сатаністамі, фашыстамі і агентамі заходніх сьпецслужбаў». Аўтары пратэсту патрабуюць, каб стваральнікі фільму «Экспансія» і кіраўніцтва Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі публічна папрасілі прабачэньня і далі магчымасьць прадстаўнікам пратэстанцкіх цэркваў выступіць па БТ, каб аспрэчыць пададзеную інфармацыю. У адваротным выпадку вернікі маюць намер падаваць у суд.

# Папа прысьвяціў Трэцяе тысячагоддзе Дзеве Марыі

*Кульмінацыяй Юбілею біскупаў, а на думку многіх аглядальнікаў, і ўсяго Юбілею 2000 году — сталася прысьвячэньне Дзеве Марыі Трэцяга тысячагоддзя хрысьціянскае эры, якое зьдзейсьніў 8 кастрычніка Папа Ян Павел II на Юбілеі біскупаў.*

Юбілей біскупаў Сьвятога 2000 году стаў самым прадстаўнічым сходам каталіцкіх ярархаў з часу II Ватыканскага Сабору — прысутнічала 1,5 тысячы з 4400 біскупаў Каталіцкай Царквы. У сваім казаньні падчас сьв. Імшы Папа заклікаў біскупаў супрацьстаяць «рэлятывізму і суб'ектывізму, якія займаюць значнае месца ў сучаснай культуры».

На плошчы сьв. Пятра, перад Фацімскай статуяй Маці Божай, якую сьпецыяльна дзеля гэтага прывезьлі з Партугаліі ў Рым самалётам, Сьвяты Айцец прамовіў словы ўрачыстага прысьвячэньня новага тысячагоддзя Найсьвяцейшай Багародзіцы. Падчас цырымоніі Ян Павел II ад імя ўсіх каталіцкіх пастыраў маліў Найсьвяцейшую Дзеву Марыю, каб яна ахінула сваёй мацярынскай любоўю ўвесь сьвет. «Сёньня мы хочам даверыць Табе будучыню, якая нас чакае, і мы просім Цябе быць разам з намі на нашым шляху,— сказаў Рымскі Архірэй.— Маці нашая, Ты ведаеш цярпеньні і надзеі Царквы ды ўсяго сьвету. Прыйдзі на дапамогу дзецям Тваім у іхніх штодзённых выпрабаваньнях і ўчыні так, каб цемра не адолела сьвет».

Напрыканцы цырымоніі Фацімская статуя, у карону якой была ўстаўлена куля, што цяжка параніла Яна Паўла II 13 траўня 1981 году, была перанесена ў папскую капліцу, а на наступны дзень вернута ў Партугалію.

# Новы патрыярх Мельхіцкай Царквы

*Сінод Біскупаў Грэка-Мельхіцкай Каталіцкай Царквы на сесіі ў г.Рабўэг (Ліван) 29 лістапада 2000 г. абраў новага мельхіцкага Патрыярха Антыёхіі. Стаў ім архібіскуп Лутфі Лахам (1933 году нараджэньня), які да апошняга часу быў патрыяршым вікарыем Ерусаліму.*

Стаўшы Патрыярхам, Яго Блаславенства прыняў імя Рыгор III (Грэгорыяс III). Ён зьмяніў на гэтай пасадзе 92-гадовага патрыярха Максіма V Гакіма, які ўзначальваў Царкву на працягу 33 гадоў і цяпер адыйшоў на адпачынак.

5 снежня 2000 году Сьвяты Айцец Ян Павел II пераслаў новаабранаму патрыярху сьпецыяльны ліст, які ёсьць выразам «царкоўнай сулучнасьці» *(comunio ecclesiastica)*.

Новы патрыярх добра ведае Беларускую Грэка-Каталіцкую Царкву ды яе жыцьцё. Яшчэ як патрыяршы вікары Ерусаліму архібіскуп Лутфі Лахам (Laham) арганізаваў Сімпозіюм грэка-каталіцкіх ярархаў Еўропы 4-6 ліпеня 2000 году ў Ерусаліме. На гэтай высокай нарадзе зьверхнікаў і кіраўнікоў грэка-каталіцкіх супольнасьцяў як прадстаўнік Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы прысутнічаў айцец архімандрыт Сяргей Гаек.

З гісторыі мельхіцкага Патрыярхату Антыёхіі адзначым такі цікавы факт: у 1054 годзе, калі адбыўся сумнавядомы падзел Паўсюднае Царквы, патрыярх Пётр III (1052-1057) не падтрымаў схізмы Керулярыя, больш за тое, ён прыняў на сябе ролю пасярэдніка ў спрэчцы паміж Рымам і Канстанцінопалем. Лучнасьць з Апостальскай Сталіцай падтрымлівалі таксама і ягоныя наступнікі да 1100 году. Яна была перарваная ў часе войнаў з удзелам крыжакоў, якія пачаліся ў Антыёхіі пасьля заваяваньня яе арабамі. У выніку частка вышэйшай ярархіі далучылася да праваслаўных Канстанцінопаля, а рэшта запачаткавала лацінскую лінію патрыярхаў Антыёхіі. Напрыканцы XVI стагоддзя сярод сірыйскіх мельхітаў зноў узнавіліся памкненьні да аднаўленьня перарванай еднасьці з Апостальскай Сталіцай, што прывяло да аднаўленьня з 1724 году каталіцкай лініі мельхіцкіх патрыярхаў Антыёхіі. Еднасьць аднавілася пры патрыярху Кірылу VI (1724-1759), які перанёс сядзібу патрыярхату ў кляштар Найсьвяцейшага Збавіцеля ў Ліване, а затым — у Дамаск. У 1772 годзе Апостальская Сталіца на просьбу патрыярха Тэадозія V аддала пад юрысдыкцыю мельхіцкіх патрыярхаў Антыёхіі ўсіх католікаў візантыйскага абраду на тэрыторыі Ерусалімскага і Александрыйскага Патрыярхатаў, а ў 1838 годзе прызнала за імі тытул мельхіцкага патрыярха Антыёхіі, Ерусаліму, Александрыі і ўсяго Ўсходу. Адбылося гэта пры патрыярху Максіму III Мазлуме, які быў выдатнай асобай (яго называлі «айцом народу»), дзякуючы царкоўна-праўнай працы якога адбыўся значны рост колькасьці вернікаў і вельмі ўзрос аўтарытэт Патрыярхату. Іншы мельхіцкі патрыярх Антыёхіі Рыгор II Язэп (1864-1897) адыграў важную ролю на I Ватыканскім Саборы (1870) і спрычыніўся да абвяшчэньня дагмату пра беспамылковасьць Рымскага Архірэя. Аўтарытэт мельхіцкага Патрыярхату Антыёхіі таксама значна ўзрос пасьля намінацыі на кардынала патрыярха Максіма IV Сайгхі (1947-1967), вядомага рэфарматара на II Ватыканскім Саборы.



*На фотаздымку: Ерусалім, 6.07.2000. Новы грэка-мельхіцкі патрыярх Яго Блаславенства Рыгор III (Лахам) з архімандрытам Сяргеем (Гаекам) ля ўваходу ў грэка-мельхіцкую катэдру.*

# Памёр Першаярарх УГКЦ

*14 сьнежня 2000 году на 87-м годзе жыцьця супакоіўся ў Богу Першаярарх Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы, Вярхоўны Архібіскуп Львоўскі, Мітрапаліт Галіцкі, Кардынал Паўсюднае Царквы Міраслаў Іван Любачыўскі.*

Яго Блаславенства нарадзіўся 24 чэрвеня 1914 году ў мястэчку Даліна Івана-Франкоўскай вобласьці. Скончыў Львоўскую духоўную семінарыю і 21 верасьня 1938 году быў высьвячаны на сьвятара мітрапалітам Андрэем Шаптыцкім. Атрымаў ступень доктара багаслоўя. У годнасьць біскупа ён быў узьведзены ў Філадэльфіі (ЗША) 13 верасьня 1979 году. Наменаваны на вікарнага біскупа Львоўскай архіяпархіі з правам пераемнасьці 27 сакавіка 1980 году, а 7 верасьня 1984 году ён узышоў на мітрапалічы пасад Львоўскага архібіскупа (у выгнаньні) — Перашаярарха УГКЦ. 31 сакавіка 1991 году вярнуўся на Ўкраіну і заняў сваю катэдру ў Саборы сьв. Юра.

Пачынаючы з 15 сьнежня ўкраінскія грэка-католікі разьвітваліся са сваім Першаярархам, труна з целам якога знаходзілася ў Саборы сьв. Юра. Штовечар, аж да пахаваньня спачылага кардынала Любачыўскага, якое адбылося 20 сьнежня, тут адбываліся паміналь-ныя набажэнствы. У аўторак, 19 сьнежня, а 16-й гадз. распачаўся чын Архірэйскага пахаваньня. А на наступны дзень а 9-й гадз. ад Сабору сьв. Юра вуліцамі Львова вырушыла пахавальная працэсія, якая на сваім шляху прайшла ля помніка ахвярам таталітарнага рэжыму і статуі Багародзіцы, па прасьпекце Свабоды і вуліцы Лістападаўскага Чыну да плошчы сьв. Юра. Пасьля Архірэйскай Літургіі за супакой спачылы кіраўнік УГКЦ Міраслаў Іван Любачыўскі быў пахаваны ў крыпце Архікатэдры сьв. Юра.

ВЕЧНАЯ ЯМУ ПАМЯЦЬ!

# Пакліканьне да сьвятасьці і сьведчаньне – галоўныя задачы сьвецкіх асобаў у Царкве

*Пакліканьне хрысьціянаў да сьвятасьці, сьведчаньне і фармаваньне іхняй сьвядомасьці, што вынікаюць з прыняцьця хросту, зьяўляюцца галоўнымі задачамі сьвецкіх у сучаснай Царкве. Пра гэта ішла гаворка на Сусьветным Кангрэсе Апостальства Сьвецкіх, які праходзіў у Рыме напрыканцы лістапада. У Кангрэсе бралі ўдзел звыш 550 дэлегатаў з усіх кантынентаў, ад розных царкоўных рухаў і супольнасьцяў.*

Як адзначыў Сьвяты Айцец Ян Павел II у сваім казаньні падчас нядзельнай Літургіі 26 лістапада на плошчы сьв. Пятра ў Ватыкане з нагоды Юбілею Апостальства Сьвецкіх, сёньня трэба зьвярнуцца да навукі II Ватыканскага Сабору, узяць у рукі яго дакументы, каб нанова адкрыць для сябе вялікае багацьце, якое там ёсьць. Ян Павел II нагадаў пра вялікі росквіт рухаў і згуртаваньняў, які пачаўся пасьля Сабору, і дадаў: «Болей, чым калі-небудзь, дарагія браты і сёстры, вашае апостальства неабходнае, каб Дабравешчаньне было сьвятлом, сольлю і закваскай новага чалавецтва». Папа нагадаў таксама словы, сказаныя 25 гадоў таму Паўлам VI на заканчэньне Сьвятога Году 1975: «Сучасны чалавек больш схільны слухаць сьведкаў, чым настаўнікаў (...), а калі і слухае настаўнікаў, дык толькі таму, што яны ёсьць сьведкамі». Напрыканцы свайго казаньня Сьвяты Айцец заклікаў сьвецкіх вернікаў: «Ня бойцеся прыняць гэтае пакліканьне — быць сьвятымі мужчынамі і жанчынамі!».

На Кангрэсе выступілі дакладчыкі, якія распавялі пра сітуацыю на пяці кантынентах і паспрабавалі акрэсьліць задачы сьвецкіх у гэтых частках сьвету, а дэкан Аддзелу грамадзкіх навук Папскага Каталіцкага ўніверсітэту ў Сант'яга-дэ-Чылі праф. Пэдра Марандэ зрабіў падсумаваньне вынікаў гэтага стагоддзя з пункту гледжаньня хрысьціянскага досьведу.

Грунтоўна і занепакоена разважалі ўдзельнікі Кангрэсу над складанай сітуацыяй хрысьціянаў на Блізкім Усходзе, дзе зьмяншаецца колькасьць хрысьціянаў. На думку Аміна Фахіма з Ягіпту, дырэктара міжнароднага Бюро па справах дзяцей, у гэтым рэгіёне хрысьціяне асабліва актыўна павінны браць удзел у дыялогу і аднаўленьні страчанай еднасьці. Паводле меркаваньня першага пасьляваеннага некамуністычнага прэм'ер-міністра Польшчы Т.Мазавецкага, нідзе гісторыя не пакінула такіх чорных сьлядоў, як у XX стагоддзі ў Еўропе. Але, з другога боку, менавіта на гэтым кантыненце найбольшую паразу пацярпелі таталітарныя сістэмы, а дэмакратыя паказала сябе як найбольш пасьпяховы шлях для разьвіцьця чалавека і нацыі. «Сьвет бяз Бога, які культывавалі гэтыя сістэмы, выявіў сябе як нялюдзкі, а страшэнныя злачынствы засьведчылі, што вера ва ўсемагутнасьць чалавечага разуму была падманлівая»,— сказаў дакладчык. У сваім выступе ён выказаў шкадаваньне, што еўрапейская інтэграцыя мае галоўным чынам эканамічны характар. Еўропа ж патрабуе адкрытасьці на краіны ў цэнтральнай і ўсходняй частцы кантыненту, аднолькава, як для духоўнага росту, так і ў плане стабільнасьці міру і дэмакратыі.

Прафесар права Мэры Эн Глендан адзначыла, што сёньня ў Паўночнай Амерыцы сапраўды існуе тое, што Папа называе «культурай сьмерці». Яна падкрэсьліла, што «гэтая культура ўсё больш шырыцца з трывожнай хуткасьцю, а яе элементамі ёсьць спажывецтва, матэрыялізм, секулярызм, рэлятывізм і скрайні індывідуалізм». Нягледзячы на свае памеры, гэтую культуру нялёгка распазнаць,— сьцьвярджала прадстаўнік амерыканскага кантыненту. Праўда, Амерыка мае вялікі шанец для пазітыўных зьменаў, бо ў Амерыцы сёньня ёсьць даволі значная колькасьць практыкуючых католікаў,— лічыць праф. Глендан. Адыйсьці ад падману, які апанаваў палітычнае, гаспадарчае і сямейнае жыцьцё — вось у чым бачыць галоўную задачу для Афрыкі Агнэс Аджана з Бэніну. Пра адсутнасьць рэлігійнай свабоды і пра фундаменталізм, які пашыраецца праз розныя азіяцкія рэлігіі, гаварыў прафесар эканомікі Томас Ган. Разам з тым ён зьвярнуў увагу на драматычную сітуацыю ў рэгіёне, дзе жыве 73% усіх людзей, якія маюць на жыцьцё менш за 1 даляр у дзень. Жывуць яны менавіта ў Азіі.

# У 2001 годзе ў Грэцыі адбудуцца экуменічныя ўрачыстасьці з нагоды Вялікага Юбілею

*Праваслаўны мітрапаліт Ерамія заклікаў хрысьціянаў Еўропы да сумеснага сьвяткаваньня 2000-х угодкаў нараджэньня Ісуса Хрыста ў 2001 годзе ў Грэцыі.*

Праваслаўны мітрапаліт Францыі (Канстанцінопальскі Патрыярхат) дадаў, што гэтая дата невыпадковая, бо менавіта ў гэты год, першы раз у новым стагоддзі і тысячагоддзі Цэрквы Ўсходу і Захаду будуць сьвяткаваць Вялікдзень у адзін і той жа дзень — 15 красавіка.

«Такія сьвяткаваньні, што зьбіраюць усе канфесіі і Цэрквы Еўропы, павінны быць нагодай для выступленьня з сумесным заклікам да паглыбленьня ўверы»,— адзначыў мітрапаліт. Ярарх паведаміў, што ўрачыстасьці адбудуцца ў паўночнай Грэцыі, найбольш верагодна — у Салоніках, зьвязаных з дзейнасьцю сьвятога апостала Паўла.

Як лічыць архіяпіскап Ерамія, магчыма, што гэтыя ўрачыстасьці супадуць з увядзеньнем у жыцьцё еўрапейскай Экуменічнай Хартыі, адносна якой вядуцца цяпер кансультацыі ў Цэрквах, што належаць да Канферэнцыі Еўрапейскіх Цэркваў, і ў Каталіцкай Царкве.

Французскі праваслаўны архіяпіскап Ерамія сёньня адначасова зьяўляецца старшынёй Канферэнцыі Еўрапейскіх Цэркваў, якая аб'ядноўвае звыш 120 некаталіцкіх Цэркваў і супольнасьцяў нашага кантыненту.

# Католікі Цэнтральнай Еўропы прымiраюцца

*У санктуарыюме Маці Божай у Златых Горах, што ў Сілезіі (Чэхія) прайшла акцыя прымірэньня католікаў трох цэнтральнаеўрапейскіх краінаў — Нямеччыны, Польшчы і Чэхіі.*

Каля сямі тысячаў вернікаў сабраліся ў санктуарыюме, які быў разбураны ў часы камуністычнага рэжыму і цяпер адноўлены на сродкі хрысьціянаў з усіх трох краінаў. У адноўленай сьвятыні была адслужана Імша, у часе якой прадстаўнікі трох народаў-суседзяў папрасілі адно ў аднаго прабачэньня за ўзаемныя крыўды, што былі нанесены на працягу гісторыі. «Фашызм, напружанасьць пасьляваеннага часу, сістэматычныя парушэньні правоў чалавека — усё гэта нанесла стасункам паміж трыма нашымі краінамі цяжкія раны, якія яшчэ сёньня да канца не загоіліся і дагэтуль абцяжарваюць мірнае суіснаваньне нашых народаў»,— гаворыцца ў заяве, што была зачытана падчас набажэнства. Пакаяўшыся ў гістарычных правінах, удзельнікі акцыі прымірэньня выказалі гатоўнасьць разам працаваць «дзеля будучыні Цэнтральнае Еўропы».

*Інфармацыя падрыхтавана паводле паведамленьняў Каталіцкага інфармацыйнага агенцтва (КАІ), БАРЦ і іншых прэсавых крыніцаў.*




Віцебская катэдра сьв. Барбары.

# БГКЦ сьвяткуе Вялікі Юбілей 2000 году

Галоўныя ўрачыстасьці Вялікага Юбілею 2000 году для Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы і Віцебскай рыма-каталіцкай дыяцэзіі, якія маюць сваім нябесным апекуном сьвятога ўніяцкага біскупа-мучаніка Язафата Кунцэвіча, распачаліся 11 лістапада ў старажытным Полацку. Менавіта тут праводзіў сваю дзейнасьць сьвяты Язафат, тут была ягоная катэдра ў сьв. Сафіі, у ягоны гонар названа тут грэка-каталіцкая парафія, адна з першых адроджаных у Беларусі 10 гадоў таму. На жаль, адправіць урачыстае набажэнства ці хоць бы зладзіць канцэрт з нагоды Юбілею 2000 году ў сьвятой Сафіі не ўдалося — для грэка-католікаў такой магчымасьці ўлады не знайшлі, бо ў гэты дзень у Полацак прыехаў мітрапаліт Філарэт і ў храме, збудаваным некалі як уніяцкая катэдра, раптам пажадалі адправіць набажэнства з нагоды 2000-годдзя хрысьціянства нашыя браты праваслаўныя... Але, можа, гэта і някепска — у гэты памятны для Полацка дзень беларусы — праваслаўныя і грэка-католікі — годна ўшанавалі Госпада Царквы Ісуса Хрыста! На жаль, пакуль што ня разам, не ў сумеснай малітве...



У полацкіх грэка-католікаў у дзень парафіяльнага сьвята была ўрачыстая працэсія, канцэрт ды рэдкая для нас пакуль архірэйская Літургія, якую служыў вялікі сябра беларускіх грэка-католікаў Мітрапаліт Перамышльска-Варшаўскі Уладыка Ян Мартыняк. Яму саслужылі Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек, рыма-каталіцкі біскуп Віцебскі Уладзіслаў Блін, кіраўнік манаскіх супольнасьцяў Студыцкага закону а. Бенядзікт Алексійчук (ён у свой час абслугоўваў мясцовых вернікаў і збудаваў тут манастырскую царкву сьв. Параскевы Полацкай), а таксама грэка-каталіцкае духавенства з Беларусі, Украіны ды Польшчы.


12.11.2000. Сьвяточная працэсія ўваходзіць у катэдру сьв. Барбары.

12 лістапада, у дзень, калі сьв. Язафат прыняў мучаніцкую сьмерць, у віцебскай рыма-каталіцкай катэдры сьв. Барбары распачаліся галоўныя ўрачыстасьці. У Віцебск на юбілейныя сьвяткаваньні зьехаліся вернікі БГКЦ з усёй Беларусі: з Менску, Берасьця, Горадні, Магілёву, Баранавічаў, Пінску, Івацэвічаў, Косава, Слоніма, Маларыты, Гомеля ды іншых мясьцінаў. Разам з мясцовымі вернікамі абодвух абрадаў у Віцебску сабралася больш за паўтысячы чалавек.

Перад вернікамі выступілі з цудоўнымі сьпевамі ды адмысловай кампазіцыяй у гонар сьв. Язафата катэдральны хор «Gloria» з Менску і хор «Бацькаўшчына» з Горадні (ён сьпяваў і ў часе сьв. Літургіі). Невялікі канцэрт прапанавалі таксама дзеці з вялікай сям'і а. Я.Маліноўскага. Цудоўную кампазіцыю з вершаў і сьпеваў прапанавалі прысутным народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін і вядомы беларускі бард Алесь Камоцкі (абодва яны належаць да менскай грэка-каталіцкай парафіі сьв. Язэпа).

Урачыстая Літургія ў візантыйскім абрадзе распачался а 12-й гадз. Яе ўзначальваў архібіскуп Ян Мартыняк, а разам з ім маліліся яшчэ 4 рыма-каталіцкія біскупы з Беларусі: біскуп Уладзіслаў Блін — архіпастыр Віцебскай рыма-каталіцкай дыяцэзіі, біскуп Аляксандр Кашкевіч — ардынарый Гарадзенскай дыяцэзіі разам са сваім дапаможным біскупам Антонам Дзямянкам і дапаможны біскуп Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі Кірыла Клімовіч. У сьв. Літургіі бралі ўдзел усе беларускія грэка-каталіцкія сьвятары з на чале з архімандрытам Сяргеем Гаекам і дэканам БГКЦ а. Віктарам Данілавым, а таксама сьвятары лацінскага абраду, семінарысты, манахі і манашкі з Беларусі, Украіны ды Польшчы.

Прыемна адзначыць, што радасьць юбілейнага сьвяткаваньня ў Віцебску з беларускімі грэка-католікамі разьдзялілі таксама прадстаўнікі дыпламатычнага корпусу (некаторыя былі з сем'ямі) з Італіі, Францыі і Польшчы. Сьвяточныя падзеі асьвятляла прэса — журналісты з газет, радыё і тэлебачаньня. Сваю духоўную еднасьць з удзельнікамі ўрачыстасьцяў у Віцебску засьведчыў Прэфект Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў кардынал Ахілес Сільвестрыні, які даслаў адмысловае віншаваньне з пажаданьнем, «каб паводле прыкладу сьв. Язафата і іншых мучанікаў ды вызнаўцаў Грэка-Каталіцкая Царква магла працягваць удзел у евангелізацыі сьвету, дапамагаючы спаткаць і спазнаць сёньняшняму чалавеку Ісуса Хрыста, у адпраўленьні сьвятых Тайнаў і праз абвяшчэньне Божага Слова».

Супольнае набажэнства ў катэдры сьв. Барбары, якое ладзілі Віцебская рыма-каталіцкая дыяцэзія і Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква ў Юбілейным 2000 годзе, сталася моцным сьведчаньнем веры, любові да Бацькаўшчыны ды імкненьнем да еднасьці і супрацоўніцтва.

Няхай жа гэты Юбілейны Год будзе Божым блаславеньнем для маладой Віцебскай дыяцэзіі і Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, якая адзначыла 10-ыя ўгодкі аднаўленьня сваёй дзейнасьці ў Беларусі.






11.11.2000. Юбілейныя ўрачыстасьці ў Полацку

# Урачыстае заканчэньне Вялікага Юбілею ў Рыме

На сьвята Богазьяўленьня 6 студзеня 2001 году ў Базіліцы сьв. Пятра адбудуцца галоўныя ўрачыстасьці заканчэньня Вялікага Юбілею хрысьціянства. Найважнейшымі момантамі гэтых урачыстасьцяў будуць сьв. Літургія, якую адправіць Сьвяты Айцец, закрыцьцё Сьвятых Дзьвярэй у ватыканскай Базіліцы, а таксама сьпяваньне гімну падзякі «Te Deum».

Днём раней, у Сьвяты вечар перад Богазьяўленьнем, адбудзецца завяршэньне Юбілею на Сьвятой Зямлі і ў паасобных мясцовых Цэрквах. Таксама ў рымскіх базіліках сьв. Яна на Латэране, Маці Божай Найвялікай і сьв. Паўла за мурамі будуць зачынены Сьвятыя Дзьверы, якія на пачатку Вялікага Юбілею адчыніў Ян Павел II. Абвяшчаючы Вялікі Юбілей булай «Incarnationis mysterium», Ян Павел II напісаў: «Божае Нараджэньне 1999 году няхай будзе для ўсіх радаснай і поўнай зьзяньня ўрачыстасьцю, прадвесьцем асабліва глыбокага пазнаньня ласкі і міласэрнасьці Божай, якое будзе працягвацца аж да закрыцьця Юбілейнага Году ў дзень Богазьяўленьня Госпада нашага Ісуса Хрыста, 6 студзеня 2001 году».

На працягу гэтага «году ласкі» ў Рыме мелі месца каля 30 юбілеяў у розных асяродках, ва ўсёй Царкве адбылася вялікая колькасьць урачыстых багаслужбаў, а розныя царкоўныя супольнасьці і рухі ажыцьцявілі незьлічоную колькасьць малітоўных, евангелізацыйных, харытатыўных і грамадскіх ініцыятываў.

Распачатае юбілейным годам трэцяе тысячагоддзе бясспрэчна сьведчыць, што хрысьціянства, насуперак песімістычным ацэнкам, выяўляе свой дынамізм, маладосьць і ўніверсальны характар, якія яно гатовае ахвяраваць сьвету.

# Юбілейны Акафіст у Рыме



Рым. Базіліка Сьвятой Марыі Найвялікай, 8.12.2000. Працэсійны ўваход грэка-каталіцкіх ярархаў у базіліку.

8 сьнежня 2000 году ў Рыме, у базіліцы Сьвятой Марыі Найвялікай (Santa Maria Maggiore), Сьвяты Айцец Ян Павел II узначальваў юбілейную службу Акафісту Найсьвяцейшай Багародзіцы. Разам з Папам саслужылі прадстаўнікі ўсіх каталіцкіх Цэркваў візантыйскай традыцыі. Беларускую Грэка-Каталіцкую Царкву прадстаўляў Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек.



Рым, 8.12.2000. Архімандрыт Сяргей Гаек пасьля Юбілейнага Акафісту просіць Сьвятога Айца ўдзяліць блаславенства для БГКЦ.

Паасобныя часткі Акафісту сьпяваліся на грэцкай, стараславянскай, украінскай, румынскай, вянгерскай і арабскай мовах. У хоры з Грэцкай калегіі сьпявалі таксама і нашыя беларускія семінарысты, якія там сёньня вучацца,— Кірыла Невяроўскі і Сяргей Стасевіч.

# Афіцыйны візіт Вярхоўнага Каталікоса армянаў Гарэгіна II у Рым



Рым. Базіліка сьв. Пятра, 10.11.2000. Экуменічнае набажэнства. Армяна-каталіцкае духавенства і падсакратар Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў мансіньёр Клаўдыё Гуджароцьці (зьлева).

Вярхоўны Патрыярх і Каталікос усіх армянаў Яго Сьвятасьць Гарэгін II склаў афіцыйны візіт у Рым Папу Яну Паўлу II 8-11 лістапада 2000 году. Напярэдадні візіту Першаярарх Армянскай Апостальскай Царквы, гаворачы пра стасункі паміж Рыма-Каталіцкай і ягонай Царквой, адзначыў, што «адрозьненьні багаслоўскага і літургічнага характару пераадольваюцца ў любові і канструктыўным узаемадзеяньні». На ягоную думку, стасункі паміж «Цэрквамі-сёстрамі» можна расцэньваць як «сяброўскія і братэрскія».

10 лістапада ў базіліцы сьв. Пятра ў Ватыкане адбылося экуменічнае набажэнства, падчас якога Сьвяты Айцец Ян Павел II маліўся разам з прадстаўнікамі Армянскай Апостальскай Царквы. У набажэнстве браў удзел таксама армяна-каталіцкі Патрыярх Кілікіі Яго Блаславенства Нэрсэс Бэдрос IX.

Сёньня ў сьвеце большасьць армянаў — каля 3,5 мільёнаў — належаць да Армянскай Апостальскай Царквы, а Армяна-Каталіцкая Царква, якая ўзьнікла ў XVIII стагоддзі, калі Ватыкан прызначыў уніяцкага Патрыярха для армянскай супольнасьці ў Сьвятой Зямлі, аб'ядноўвае каля 259 тысячаў вернікаў.

Падчас экуменічнага набажэнства адбылася гістарычная падзея для армянскага народу — Сьвяты Айцец Ян Павел II перадаў Вярхоўнаму Патрыярху і Каталікосу ўсіх армянаў Гарэгіну II мошчы сьв. Рыгора, Асьветніка Арменіі. Да апошняга часу сьвятыя рэліквіі вялікага армянскага сьвятога, які жыў у III-IV стст., знаходзіліся ў катэдральным храме Неапаля. Па вяртаньні на радзіму Каталікос Гарэгін II урачыста перанёс гэтую вялікую каштоўнасьць армянскага народу ў новы сабор сьв. Рыгора, які ўзьведзены ў Ерэване ў гонар 1700-годдзя прыняцьця Арменіяй хрысьціянства.

Цяперашні кіраўнік Армянскай Апостальскай Царквы Гарэгін II быў абраны Вярхоўным Патрыярхам і Каталікосам у кастрычніку мінулага году. Ён стаў пераемнікам памерлага ўлетку 1999 году Гарэгіна I, які прыкладаў шмат намаганьняў для збліжэньня сваёй Царквы з іншымі хрысьціянамі, у прыватнасьці з католікамі, і запрасіў Папу Яна Паўла II наведаць Арменію. Гэты візіт Рымскага Архірэя быў запланаваны на пачатак лета 1999 году, але не адбыўся з прычыны рэзкага пагаршэньня здароўя Гарэгіна I і недамаганьня самога Яна Паўла II. «Гарэгін II дэманструе яўнае жаданьне працягваць дыялог з Каталіцкай Царквой,— адзначаецца ў прэсавай заяве Сьвятога Пасаду,— ён дзейнічае ў тым самым кірунку, што і ягоны папярэднік».

Афіцыйны візіт Сьвятога Айца Яна Паўла II у Арменію плануецца на пачатак чэрвеня 2001 году. У царкоўных колах лічаць, што 2001 год ідэальна падыходзіць для візіту Рымскага Архірэя ў гэтую краіну, бо на гэты год прыпадаюць 1700-ыя ўгодкі прыняцьця хрысьціянства (301 г.) як дзяржаўнай рэлігіі ў Арменіі.



Рым. Базіліка сьв. Пятра, 10.11.2000. Экуменічнае набажэнства. Вярхоўны Патрыярх і Каталікос усіх армянаў Гарэгін II (зьлева) вітае армяна-каталіцкага Патрыярха Кілікіі Нэрсэса Бэдроса IX (справа).

# Каляды
# майго дзяцінства

*Успамінае Раіса ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ (Бэры, Канада)*



Каляды — на Пружаншчыне ды, мусіць, і ў іншых частках Беларусі, казалі Раздво (ад слова радзіць),— нараджэньне Ісуса Хрыста хрысьціянскі сьвет сьвяткуе 25 сьнежня. 24 сьнежня — Сьвяты Вечар. У ноч з 24-га на 25-га сьнежня нарадзіўся ў Бэтлееме Ісус Хрыстос.

Сьпярша час лічыўся паводле юльянскага календара. Пасьля сьвет прыняў новы, больш дакладны, грыгарыянскі каляндар. У XX стагоддзі розьніца паміж старым (юльянскім) і новым (грыгарыянскім) стылем дасягнула 13 дзён. Толькі Праваслаўная Царква трымаецца старога стылю. Ды ўсё роўна, ці то паводле новага, ці паводле старога каляндарнага стылю, дзень 25 сьнежня — НараджэньнеХрыста, а 24 сьнежня — Сьвяты Вечар. 2000 гадоў таму нарадзіўся Ісус Хрыстос! Ад Ягонага нараджэньня пачынаецца новая эра ў жыцьці чалавецтва. Таму Сьвяты Вечар ёсьць вялікім сьвятам. Людзі думкамі і душой ідуць у Бэтлеем прывітаць, аддаць славу нованароджанаму, Богу і Каралю сьвету.

*Неба й зямля, неба й зямля*
*Радасна сьпяваюць.*
*Анялы сьвету, Анялы сьвету*
*Дзіва абвяшчаюць:*
*Хрыстос радзіўся, Бог аб'явіўся*
*Анялы сьпяваюць, пастушкі іграюць,*
*Дзівы, дзівы абвяшчаюць!*
*І мы сягоньня, і мы сягоньня*
*Славу Богу дайма,*
*Хрысту-Дзіцятку, Хрысту-Дзіцятку*
*Дружна засьпяваймa:*
*Хрыстос радзіўся, Бог аб'явіўся!*
*Анялы сьпяваюць, пастушкі іграюць,*
*Дзівы, дзівы абвяшчаюць.*

На працягу чатырох тыдняў да Калядаў, да Нараджэньня Ісуса Хрыста, пост — Піліпаўка. У часе посту нельга было (калісьці) усім есьці мяса і малочнага, дзяцей пост не абавязваў. У часе посту людзі не гуляюць, прыгатаўляюць сябе, каб з чыстай душой сустрэць прыход на зямлю Ісуса Хрыста.

Перад Калядамі людзі рыхтаваліся да сьвята, "калолі" сьвіней, каб пасьля посту — на Раздво Хрыстовае — былі каўбасы, мяса, а на Шчадруху — вечар перад Новым Годам — абавязкова была печаная "кішка". Каўбасы рабілі з тонкіх кішак сьвініны, а "таўстую кішку" напіхвалі пацёртай, запраўленай скваркамі бульбай і ставілі ў печ пячыся. На багатай вячэры гэта была найважнейшая й найсмачнейшая страва.

Перад Раздвом жанчыны чысьцілі хаты, бялілі печы і забельвалі месцамі пабруджаныя сьцены. Усю хату бялілі вясной, перад Вялікаднем. Перад Раздвом у некаторых дамах жанчыны ўпрыгожвалі іконы кветкамі,па-мастацку з зробленымі паперы. Дзеці ж рабілі забаўкі на елку. Рабілі мы іх дома на сваю елку, а таксама і ў школе на школьную. Быў гэта перад Калядамі для дзяцей найпрыемнейшы і найцікавейшы занятак. У крамах мы куплялі бліскучыя жывымі колерамі лісты таўстой і тоненькай паперы, куплялі розная велічыні галоўкі анёльчыкаў і залацістых зорак. Усё гэта было патрэбнае на забаўкі на елку. Хлапцы рабілі зоркі і батлейкі для калядаваньня. Для зоркі патрэбна было дастаць рэшата. Кругом рэшата прыклейвалі адпаведна зробленыя праменьні, бо пэўна ж зорка прамянюе. Заміж сеткі рэшата давалі празрыстую — намазаную маслам — паперу. На ёй пасярэдзіне наклейвалі ясьлі: народжаны Ісус Хрыстос з маткай Марыяй і Язэпам. Каля дзіцятка Ісуса кленчылі мудрацы-каралі і пастушкі. Кругом ясьляў наклейвалі галоўкі крылатых анёльчыкаў, а кругом на небе многа зорак з найбольшаю зоркаю над ясьлямі. За гэтым усім ўстаўлялі запаленую сьвечку, і ўвесь абразок нараджэньня дзіцяткі Бога-Чалавека Ісуса Хрыста быў паказаны як на экране кіно ці тэлевізара. Батлейкі былі яшчэ цікавейшыя, бо зробленыя з мудрэйшай тэхнікай. Да ясьляў аддаць славу Хрысту ўсьцяж падыходзілі то каралі, то пастушкі, то мудрацы. Усе яны прыносілі Богу-Дзіцятку падарункі. Вось вам і народнае мастацтва-кіно. А на Шчадруху — і тэатр, бо дзеці або моладзь рыхтавалі абразкі з падзеяў нараджэньня Хрыста.

У школе на лекцыях настаўнікі і сьвятары вучылі дзяцей пяяць калядкі. Сьвятары арганізоўвалі дзіцячыя хоры, якія пялі калядкі ў часе багаслужбаў і ў царкве. На сьпеўкі гэтых хораў мы хадзілі ў пазашкольны час.

У нас дома на Каляды мама шыла для нас дзяцей нешта новае з вопраткі, але ніхто не купляў нікому падарункаў. Гэтага звычаю не было. Ужо самое сьвята, падрыхтоўка да яго, ялінка былі бязьмернай радасьцю для кожнага, ня толькі для дзяцей. Сьвята ня ёсьць сьвятам, калі да яго няма падрыхтоўкі. Падрыхтоўка ўжо ёсьць сьвяткаваньнем.

Ды ў падрыхтоўцы да Раздва найважнейшае было яшчэ наперадзе: Куцьця — Сьвяты Вечар. У гэты дзень Дзед Мароз прывозіў дзецям з лесу ялінку. Тата ўстаўляў яе ў калодку, каб яна магла стройна стаяць на падлозе. Ставілі елку ў галоўным пакоі перад сьвятымі абразамі. Дзеці з маткай убіралі ялінку цацкамі, якія з такой радасьцю перад Калядамі самыя рабілі. Тата кожны год на Каляды езьдзіў у горад купіць адно кілё шакалядных цукерак, якія мы разьвешвалі на елку. А пасьля на Раздво імі частаваліся.

На Куцьцю зранічкі мама пякла скаромныя й посныя булкі ды смачныя коржыкі на елку, якіх (як і нічога скаромнага) нельга было есьці нават дзецям аж да Раздва. Мама з дапамогай дзяцей рыхтавала сьвятую вячэру. Падвечар, як на небе паказалася вялікая зорка (дарэчы, зорка Венера), якая паказала мудрацам і пастушкам месца, дзе нарадзіўся Хрыстос, рыхтавалася сьвятая вячэра, якая называецца Куцьця. Тата ў рэсках прыносіў з клуні сена, раскладаў яго на стале, а мама засьцілала на сена белы абрусак. У гэткі спосаб рабіліся ясьлі для дзіцятка-Хрыста. На так засланы стол ставілася дванаццаць посных стравау. Тут была смажаная ў муцэ рыба, намочаныя ў жытнім квасе селядцы, прыстроеныя скрыльцамі цыбулі, смажаныя ўюны, ламанцы з макам й цукрам, ячменная з цукрам і макам куцьця, вараныя сушоныя грушы, яблыкі ды розная садавіна. На сьвята была й бутэлька "чыстае" і вішнёвы сок для дзяцей. (Гарэлка ў нас у хаце бывала толькі на Каляды, Вялікдзень і калі трэба было піць барыш, а гэта калі нешта вялікае куплялася — конь ці карова — або прада-

валася). Перад вячэрай мы, дзеці, павінны былі ўсе чародкай перад сьвятымі абразамі стаць на калені ды ў голас гаварыць малітвы, найважнейшая з іх для нас была малітва "за супакой" нашых дзядоў. Бацькі маліліся стоячы паціху. Пасьля малітвы ўсе сядалі кругом за сталом на вячэру. У часе вячэры пад вокны прыходзілі калядоўшчыкі. Тады адвешвалі з вакна занавеску, каб добра бачыць прыгожую зорку або цікавую батлейку. Калядоўшчыкі пялі калядку, пасьля якое адзін з іх голасна рэцытаваў прывітаньні са сьвятамі й найлепшыя пажаданьні гаспадару і сям'і. За гэта калядоўшчыкам выносіліся падарункі — грошы. Калядоўшчыкаў за вечар прыходзіла некалькі групаў з рознымі зоркамі, рознымі калядкамі. Кожная група калядоўшчыкаў старалася, каб іхняя зорка была найпрыгажэйшаю, каб найпрыгажэй пяяць. Пад канец вячэры запальвалі мы на ялінцы сапраўдныя каляровыя сьвечкі. Запаленыя сьвечкі былі выразам хвалы новародажанаму Ісусу Хрысту. Гэта быў урачысты й радасны момант. З захапленьнем глядзелі мы на так званае сваё мастацтва: прыгожа аздобленую намі, нашымі цацкамі, асьветленую рознаколернымі пахучымі васковымі сьвечачкамі ялінку. Ялінка й усё было такое прыгожае, сьвяточнае, што вялікая радасьць напаўняла дзіцячае ды ня толькі дзіцячае сэрца й душу. Вось у чым ёсьць сэнс і значэньне рэлігійных сьвятаў.

Па вячэры ўсе йшлі на адпачынак, каб бацькам і старэйшым дзецям на чацьвёртую гадзіну ранічкі схадзіць у царкву сустрэць і аддаць славу новародажанаму Збаўцу. І гэта таксама было нештодзённай урачыстасьцю. У царкве гарэла ўсё электрычнае сьвятло й шмат агеньчыкаў васковых сьвечак у падсьвечніках. Добры хор заліваў увесь храм урачыстым пяяньнем і невымоўнай радасьцю напаўняў душы вернікаў, што шчыльна запаўнялі сьвятыню.

*Неба й зямля, неба й зямля*
*Радасна сьпяваюць.*
*Анялы сьвету , анялы сьвету*
*Дзіва абвяшчаюць:*
*Хрыстос радзіўся, Бог аб'явіўся!*
*Анялы сьпяваюць , пастушкі іграюць*
*Дзіва, дзіва абвяшчаюць.*
*І мы сягоньня, і мы сягоньня*
*Славу Богу дайма*
*Хрысту-Дзіцятку, Хрысту-Дзіцятку*
*Дружна засьпявайма:*
*Хрыстос радзіўся, Бог аб'явіўся !*
*Анялы сьпяваюць, пастушкі іграюць,*
*Дзівы , дзівы абвяшчаюць.*
*Саўка , ды Грышка ладзілі дуду,*
*Ладзілі славіць дудай Каляду,*
*Ду-ду-ду, ду-ду-ду*
*Славіць Каляду.*
*Як разыйшліся музыкі гу-га !*
*Згінула гора, згінула туга.*
*Туга, туга, туга туга*
*Згінула туга.*
*Язэп старэнькі ёмкі ўзяўшы кнут*
*Кіем на дзьверы паказаў ён тут:*
*Ту-ту ту ту ту-ту ту*
*Паказаў ён тут:*
*Вы сабе грайце сваё го-ца-ца,*
*Толькі ня страшце Езуса-хлапца*
*Ца-ца ца ца, ца-ца ца, Езуса-хлапца.*

Сьвята Раздва трывала 3 дні. На першы дзень людзі зраніцы пасьля начное багаслужбы ў царкве адпачывалі, а ўвечары або прымалі гасьцей — радню, прыяцеляў, або самыя йшлі ў госьці. Залежыць, хто каго сьпярша запрасіў. На другі дзень сьвятаў была багаслужба ў царкве й таксама адведзіны-госьці. Моладзь зьбіралася ў нечыяй большай хаце на танцы. У часе посту танцаў нельга было рабіць. Пасьля трэцяга дня сьвятаў ужо можна было працаваць, але вечары да Вадохрышчаў былі "сьвятымі": нельга было "ані шыці, ані прасьці, ані кросны ткаці". Жанчыны, маладзіцы зьбіраліся на вячоркі пагаварыць, прыемна ў кампаніі правесьці час, некаторыя вязалі рукавічкі, шкарпэткі ці шалікі. Вязаць у сьвятыя вечары было дазволена. Ад Калядаў да Новага Году было толькі чатыры дні. І да яго людзі зноў рыхтаваліся, каб годна сустрэць будучыню — Новы Год. Жанчыны рыхтавалі багатую вячэру на Шчадруху. Каляднікі рыхтаваліся да калядаваньня. Моладзь рыхтавалася рабіць сцэнічныя абразкі з першых год жыцьця Ісуса Хрыста. Калі Ірад, рымскі кароль у Юдэі, даведаўся ад мудрацоў, што ў Бэтлееме нарадзіўся Бог-Уладар сьвету, ён спалохаўся, бо баяўся канкурэнцыі. Таму Ірад выдаў загад забіць усіх дзяцей у веку да двух гадоў. Анёл папярэдзіў Язэпа (зямнога бацьку Ісуса Хрыста, бо сапраўдным Бацькам Яго быў Бог, які паслаў Хрыста праз нараджэньне на зямлю) у сьне, каб ён устаў, узяў Марыю і дзіцё і завёз іх (на асьле) у Ягіпет. І сказаў ім быць там аж да часу сьмерці Ірада. Вось жа ў сцэнічным абразку дзейнымі асобамі былі: страшны Ірад, жыд, бо дзея адбываецца ў Юдэі, у жыдоўскім асяроддзі, цыган, анёл, ды хто толькі яшчэ. Усе яны мелі створаныя аўтарам інсцэнізацыі заданьні. Вось жа гэткая сцэнічная група заходзіла на Шчадруху яшчэ завідна ў хату паказваць сваё майстэрства, за што атрымоўвала ад гаспадароў заплату. Апрача такіх сцэнічных групаў прыходзілі "пярэбраныя". Гэта ўжо былі дарослыя. Яны апраналіся, як на маскарадны баль, у розныя экзатычныя касьцюмы, пераапраналіся найчасьцей у цыганак ды цыганоў. "Пярэбраныя" ўвальваліся ў хату, сьмяяліся, жартавалі, чапляліся да бацькоў варажыць нябыліцы. За імі трэба было сачыць, бо на Шчадруху "пярэбраныя" мелі права непрыкметна ўзяць усё, што ім спадабалася б. Калі б, аднак, гаспадары заўважылі такі ўчынак, яны павінны былі забраную рэч аддаць. Такое было звычаёвае права.

На Шчадруху — у шчодры вечар — абавязкова была "багатая вячэра". На якой, як ужо ўзгадвалася, была пячоная бульбяная кішка, мяса й салодкія прысмакі, з якіх найцікавейшымі былі "хрусты". На Шчадруху моладзь арганізоўвала вечарыны, якія пачыналіся пачастункам з рознымі прысмакамі, а канчаліся танцамі.

На Шчадруху перад Новым Годам дзяўчаты зьбіраліся варажыць у розныя варожбы, каб даведацца, ці выйдуць у гэтым годзе замуж, ці не.

Перад поўначчу людзі йшлі ў царкву на багаслужбу, інакш кажучы, па Божаму сустракалі Новы Год, маліліся, каб ён быў здаровы, багаты й шчасьлівы.

6 студзеня былі Вадохрышчы. На ўспамін таго, як перад пачаткам свае месіянерскае дзейнасьці Ісус Хрыстос быў ахрышчаны ў рацэ Ярдан Янам Хрысьціцелем. У той момант над Хрыстом зьявіўся ў вобразе голуба Бог і чутны быў голас з неба: "Гэта мой Сын улюбёны, слаўце Яго!" На Вадохрышчы пасьля багаслужбы ў царкве хрэсны ход ішоў да мясцовае ракі. Нягледзячы на "хрышчэнскія марозы", над ракой адбывалася багаслужба. Сьвятар сьвяціў у палонцы ваду, якую людзі як сьвянцоную набіралі ў бутэлькі і неслі дамоў. У часе сьвячэньня вады людзі выпускалі прынесеныя ў кошыках галубы, якія кружылі над ракой.

Сьвяточная вячэра перад Вадохрышчамі называлася "другая куцьця", падобная да першае. На наступны дзень пасьля Вадохрышчаў з вялікім сумам здымалі мы з ялінкі, з якой асыпаліся ўжо іголкі, цацкі і выносілі елку з хаты. Дзеці пачыналі чакаць ізноў Калядаў.

Пасьля Вадохрышчаў пачынаўся "мясаед", які цягнуўся да Вялікага посту перад Вялікаднем. У часе Мясаеду ладзіліся вечарыны, балі. Людзі гулялі, дзяўчаты жывілі ў душы надзеі, што на вечарынах, на балях пазнаёмяцца з чароўным хлопцам ды выйдуць у гэтым годзе замуж. Беларускія студэнты з валізкамі, напакаванымі сухарамі, вярталіся ў Вільню на вучобу ва ўніверсітэт, дзе іх чакала інтэнсіўная праца, падрыхтоўка да экзаменаў. Ды праца не перашкаджала студэнтам у часе мясаеду арганізоўваць студэнцкія вечарыны, прыкладам традыцыйны "Баль трох саюзаў (студэнцкіх)": Беларускага, Летувіскага й Украінскага, у часе якога ў сотню пар танцавалі "Лявоніху", "Сукцыніса". І я там была, танцавала "Сукцыніса", на заканчэньне якога мой танцор крычаў: "Мажа!" — "мала!". "Лявоніху" ж танцавала з украінскім калегам...

Так яно калісь было ў нас на Беларусі...

**УВАГА!**

Рэдакцыя «Царквы» можа даслаць чытачам газеты СЬПЕЦВЫПУСК, падрыхтаваны да юбілейных урачыстасьцяў БГКЦ у Віцебску ў гонар сьв. Язафата. Для гэтага дашліце нам сваю заяўку і паштовыя маркі для перасылкі.

# Чалавек, якога выратаваў Бог



Гэтая амаль неверагодная гісторыя пачалася 23 сьнежня 1787 году, калі кабатажны карабель «Баўнці» пакінуў берагі Англіі. Сорак шэсьць матросаў плылі на далёкі востраў Таіці з сакрэтным заданьнем самога караля — прывезьці ў ангельскія калоніі парасткі хлебнага дрэва, якое, на думку вучоных батанікаў, павінна было забясьпечыць рабоў і перасяленцаў таннай ежай. На чале каманды стаяў лейтэнант Вільям Блай. Ён ужо ня раз вандраваў па паўднёвых марах разам з капітанам Кукам і лічыўся добрым мараходам. На жаль, гэтага нельга было сказаць пра яго як чалавека.

Яму дапамагаў малады афіцэр Флетчар Крысьціен, які паходзіў з заможнае сям'і. Брат Флетчара стаў выдатным тэолагам, а яму самому абяцалі пасьля плаваньня пост капітана.

Нельга ня ўспомніць і пра яшчэ аднаго члена экіпажу — Джона Адамса. Ён быў простым матросам, але вылучаўся сярод сваіх таварышаў вялікай спраўнасьцю і розумам.

Пераадолеўшы ўсе цяжкасьці, экспедыцыя кінула якар ля Таіці. Тут іх сустрэў сам малады кароль Памара. На беразе матросаў чакалі віно і прыгожыя жанчыны.

У тыя часы парадкі на англійскім флоце былі вельмі жорсткія. За самыя нязначныя парушэньні матросаў каралі бізунамі. Заробкаў не заўсёды хапала нават на ежу. Ня дзіва, што маракам з «Баўнці» Таіці падаўся дзівосным раем. Кожны дзень яны маглі ласавацца сьвежай гароднінай, піць цудоўную ваду і амаль кожны знайшоў сабе маленькую сяброўку — тойа. Лёгкае таіцянскае жыцьцё разбэсьціла матросаў. Яны не жадалі ўспамінаць пра радзіму, пакінутыя сем'і і жытло.

Калі парасткі хлебнага дрэва прывезьлі на карабель, лейтэнант Блай загадаў плыць дадому. Ён добра бачыў, што дысцыпліна пахіснулася, і пачаў змагацца за яе з дапамогай бізуноў. Аднойчы лейтэнант абвінаваціў у крадзяжы какосавага арэха свайго памочніка, і Крысьціена пакаралі як простага матроса.

Хутка на «Баўнці» пачаўся стыхійны бунт. Яго ўзначалілі пакараны Флетчар Крысьціен і Джон Адамс, які стаў ягоным сябрам. Блая і адданых яму матросаў пасадзілі на шлюп і пажадалі добрага ветру. Нікому і ў галаву не магло прыйсьці, што Блай здолее выратавацца — да бліжэйшага паселішча еўрапейцаў на востраве Цімор трэба было плыць амаль дзьве тысячы міль. Нікому, акрамя Крысьціена! Ён разумеў, што Блай незвычайна ўпарты чалавек. Калісьці лейтэнант дабярэцца да Лондану і тады ўзначаліць карную экспедыцыю.

Некалькі паўстанцаў засталіся на Таіці, астатнія, на чале з Крысьціенам і Адамсам, перабраліся на бязьлюдны востраў Піткэрн. Разам з сабою яны прыхапілі таіцянаў — жанчынаў і мужчынаў. Апошнія павінны былі стаць рабамі ангельцаў. Каб ні ў кога не ўзьнікала думкі пакінуць Піткэрн, «Баўнці» спалілі.

Некалькі гадоў маленькая калонія жыла ў міры. Мужчыны займаліся земляробствам, жанчыны гадавалі дзетак. Але таіцяне не жадалі мірыцца са сваім прыніжаным становішчам. Яны пачалі рыхтаваць новую змову. Аднойчы, калі Джон Адамс вяртаўся ўвечары з поля дахаты, на яго напалі. Грымнуў стрэл. Куля патрапіла Адамсу ў грудзі. Таіцяне палічылі, што Джон Адамс забіты, і пасьпяшаліся да астатніх. На самой справе, ён быў толькі паранены. З апошніх сілаў Адамс дапоўз да лесу і там схаваўся.

У тую ноч загінулі ўсе англічане. Джон чуў стрэлы і стогны сваіх сяброў. «Сьвет нібы перавярнуўся для мяне,— успамінаў ён пасьля.— Я ўжо не хваляваўся за сваё жыцьцё. Я хваляваўся за сваю душу. Зноў і зноў я бачыў постаць сваіх бацькоў, капітана Блая, Флетчара Крысьціена. Я зразумеў: маё жыцьцё перапоўнена грэшнымі ўчынкамі. Мне трэба было выправіцца, але выратаваць мяне мог толькі Божы цуд».

Цуд адбыўся. Ачмурэлыя ад перамогі таіцяне спакойна ляглі спаць, і на іх, сонных, кінуліся са зброяй жанчыны. Каты загінулі самі. Пад раніцу жанчыны адшукалі ў лесе цела Адамса і выратавалі яго. Ён застаўся адзіным мужчынам на востраве.

Джон Адамс прысьвяціў свой час выхаваньню дзяцей. Ён не рабіў розьніцы паміж сваімі і чужымі. Для ўсіх ён быў адзіным бацькам, які вучыў іх грамаце, чытаньню Бібліі, расказваў пра розныя землі і краіны.

Восеньню 1814 году некалькі англійскіх караблёў дасягнулі вострава Піткэрн. Маракі вельмі зьдзівіліся, бо іх сустрэлі маладыя людзі, якія добра размаўлялі паангельску, паказвалі сваю маленькую калонію. Асабліва ўсіх уразіла вялікая набожнасьць піткэрнцаў. Чутка пра цудоўны востраў хутка даляцела да каралевы Вікторыі, якая прапанавала Джону Адамсу вярнуцца ў Англію героем. Але той тактоўна адмовіўся. «Я не магу пакінуць дзяцей. Іх у мяне шмат. Я ўсім патрэбен»,— адказаў ён.

Паселішча на востраве Піткэрн існуе і сёньня. Кажуць, жыхары вострава ўсё такія ж па-хрысьціянску чульлівыя людзі. Яны вераць у Бога і захоўваюць памяць пра свайго славутага нашчадка Джона Адамса — чалавека, якога выратаваў Бог.

**Дзьмітры Самахвалаў**
*г.Менск*

# Найперш трэба шукаць ПРАЎДЫ

⇨ Заканчэньне са с.3

толькі асабістай справай чалавека па прынцыпе «мая хата з краю — нічога ня знаю», бо людзі залежныя адно ад аднаго і захаваньне намі нормаў рэлігійнай маралі зьяўляецца галоўнай умовай для выжываньня чалавецтва. Вось просты прыклад, які мы назіраем даволі часта ў нашым жыцьці: аўтобус, у якім людзей — біткам набілася. У адным выпадку — кожны толькі думае пра сябе, як бы яму не наступілі на нагу, а ў другім — усе імкнуцца быць абачлівымі, каб выпадкова не наступіць свайму суседу на нагу. Спытаем сябе: дзе будзе менш «адціснутых» ног? Відавочна — у другім выпадку. І гэта таму, што ў гэтым прыкладзе людзі жывуць клопатам пра бліжняга паводле прыказаньня Божага: «Палюбі бліжняга свайго як самога сябе». Таму відавочна, што захаваньне хрысьціянскіх прыказаньняў, асабліва — любові да бліжняга (а гэта немагчыма без любові да Бога) — зьяўляецца ня толькі прыватнай справай, але і закранае інтарэсы ўсіх людзей, і менавіта таму зьяўляецца справай грамадзкай. Вось чаму сёньня хрысьціянству трэба надаць грамадзкую значнасьць, каб яно на справе сталася нормай для тых, хто кіруе і вызначае дзяржаўную палітыку, каб было нормай міжасабовых стасункаў.

***Любыя ў Госпадзе браты і сёстры ды ўсе людзі добрае волі! Сардэчна віншую вас з вялікім сьвятам Раства Хрыстова і прашу для вас Божага блаславеньня.***

Урывак з кнігі Альберта Аблондзі «Ніякіх павучаньняў»

# "Дарога, якая вядзе да Бога?"





*Дарагі спадар біскуп!*

*Лаўлю Вас на слове: Вы раіце мне шукаць. А я мушу сказаць Вам: ужо шукаў. Мяркую, Вы заклікаеце найперш шукаць Бога. Вы раіце шукаць унутры сябе самога або шукаць сябе самога. Ніколі не спрабаваў гэтага рабіць. Магчыма, не думаў і пра тое, што трэба заўжды шукаць іншых і тое, што ў іх.*

*Такім чынам, з праблемай іншых і сябе самога я проста не сутыкаўся. Але я добра ведаю, наколькі цяжкае для вырашэньня пытаньне пра Бога. Гэта сапраўды так, бо ў маім унутраным стане бываюць розныя моманты: бывае, што адчуваеш Бога амаль як чалавека, які табе блізкі, які знаходзіцца каля цябе і да цябе дакранаецца; было і так, што я ўспрымаў Яго праз самыя простыя рэчы — такія, як прырода, ранак, унутраны голас; а іншым разам мне здавалася, што Ён пакінуў мяне, зышоў.*

*Вядома, я разважаю над гэтымі момантамі як аб нечым станоўчым, але ж яны могуць быць і спакушэньнем. Яны могуць прывесьці да думкі, што сябра ня можа паводзіць сябе такім чынам: зьяўляцца і зьнікаць, быць побач і далёка, прысутнічаць і адсутнічаць. Ці не пагадзіліся б Вы паказаць мне шлях, які вядзе да Госпада, але такі, каб, пашукаўшы, удалося Яго знайсьці? Вы кажаце, што дастаткова шукаць. Але як можна шукаць усё жыцьцё, трываць у супакоі, разумеючы, што нешта ўсё роўна трэба знайсьці; асабліва — калі гэтае "нешта" — Бог? Ня ведаю, ці зможаце Вы мне адказаць, адно зразумела: гэтыя мае пакуты ідуць за мною па сьлядах, і, спадзяюся, што цяпер яны і Вам не даюць спакою, бо Вы ўжо даказалі сваю неабыякавасьць да праблемаў людзей дый Госпад паслаў Вас дапамагаць ім ісьці да Яго. Менавіта такой ёсьць Ваша задача, ці ня так?*

*РАБЭРТА*

Дарагі Рабэрта!

Так і хочацца сказаць табе: "Малайчына". Так, бо калі зыходзіць з тэксту твайго ліста (хоць я і не павінен лічыць, што ў ім — усё праўда), бачна, якая вялікая сумленнасьць, велізарная патрэба, а можа, і велізарная неасэнсаваная любоў натхняе цябе ў тваім пошуку. Мне здаецца, я мог бы адказаць на твой ліст адно доўгай прамоваю, або, магчыма, прапаноўваю пасябраваць: тады мы прайшлі б разам не "некалькі крокаў", але нашмат болей, каб падтрымліваць адно аднаго ў час, калі здаецца, што Госпад недзе зьнік, каб разам радавацца ў хвіліны прысутнасьці Госпада, які, як ты кажаш, зьяўляецца ў гэткіх розных абліччах. Але, калі дазволіш, я б хацеў распавесьці табе адну гісторыю. Вядома, яна можа быць павучальнай і праўдзівай у дачыненьні людзкіх зносінаў; але яна ж будзе праўдзівай і натхняльнай у дачыненьнях паміж Богам і чалавекам.

Вось гэтая гісторыя. Як апавядаюць, двум сябрам, каб патрапіць на працу, трэба было ісьці рознымі дарогамі, якія потым сыходзіліся ў адзін шлях, што вёў іх абодвух да месца штодзённае працы. Але як жа ім сустрэцца, калі ісьці даводзілася з розных бакоў? Як даведацца аднаму, прайшоў ужо другі ці трэба яго пачакаць? Часамі здаралася так, што сябры сустракаліся на шляху, адначасова падышоўшы да месца скрыжаваньня дарог. Тады яны цешыліся, што могуць быць разам і разам працягваць шлях. І вось, калі ім надакучыла аддаваць гэтую радасьць на волю выпадку, яны дамовіліся: калі адзін падыходзіць да месца скрыжаваньня дарог і ня бачыць нічога на невысокім муры, што знаходзіўся ля скрыжаваньня, гэта азначае, што іншы яшчэ не прайшоў, і адпаведна, першы можа яго пачакаць. Калі ж ён бачыць на муры камень, гэта значыць, што сябра ўжо тут пабываў і што трэба надаць хады, каб яго дагнаць.

Табе не здаецца, што гэтаксама адбываецца і сустрэча з Госпадам? Я б шчыра пажадаў табе прыняць такія Ягоныя паводзіны. Часам сустрэць Яго зусім проста — як у тым выпадку, калі сябры адначасова сыходзіліся на месцы скрыжаваньня дарог. Бывае і так, што каменьчык дае нам зразумець, што Ён ужо мінуў, што Ён ідзе наперадзе нас і, магчыма, рыхтуе нам шлях і чакае нас. Іншаму гэты каменьчык ні аб чым ня кажа, але для цябе, які ведае, ён кажа: "Я чакаю цябе, Я цябе не знайшоў у дамоўленым месцы, але ты дагоніш Мяне, Я ж пакуль пайду наперад падрыхтаваць табе шлях". Бачыш, як нават нейкія зусім нязначныя, на першы погляд, рэчы, могуць стаць Ягонай весткаю? Нязначныя для іншых, для цябе яны — дзівосныя.

І яшчэ падумай вось пра што: нават калі мы нічога не знаходзім, гэта ўсё роўна набывае пэўны сэнс. Часам маўчаньне Бога азначае адно: "Ты мусіш пачакаць Мяне". Так што гэтае маўчаньне не пустое, Госпад і ў ім прысутнічае. Бо калі ты не знайшоў каменя на муры, значыць сябра яшчэ павінен прыйсьці.

Якім доўгім быў Калядны пост, перад тым, як Хрыстос прыйшоў да нас! Калядны пост гэта і тое, што перажывае кожны з нас, калі ў цішы, сабранасьці, цярплівасьці, упартасьці творыцца тое радаснае перадкаляднае чаканьне, у якое Госпад павінен прыйсьці.

Вось жа напрыканцы мая парада табе: умей радавацца момантам, калі прысутнасьць Божая гэтак адчувальная. Гэта ёсьць моманты ласкі Божай — падобныя да сустрэчы двух сяброў. Умей таксама адкрываць Ягоную дабрыню, калі Ён ідзе наперадзе цябе ў штодзённых дробязях, дапамагаючы табе і ў іх разгледзець сутнасьць, схаваную за нязграбнай, даволі надакучлівай абалонкай. Умей трымацца ў час Ягонай адсутнасьці, таму што гэта толькі пачатак таго моманту, калі Ён несумненна захоча сустрэцца з табою; будзь падобны да сябра, які менавіта таму, што на муры нічога няма, ведае, што ягоны сябар безварунковa павінен прыйсьці. Добрага чаканьня і добрай сустрэчы!

**Твой † Біскуп Альберта**

# а. Адам Саладух

# Згадкі пра гісторыю жыцьця і шанаваньне сьв. Язафата ў Вільні

*"Русь мяне на сьвет зрадзіла,*
*Літва мяне выхавала"*

*(Песьня да сьв. Язафата, Супрасьль, 1729)*

Чатыры гарады шчыльна зьвязаныя, хоць і ў розны спосаб, з жыцьцём сьвятамучаніка Язафата, гэта: Уладзімір-Валынскі, Вільня, Полацак і Віцебск. Значная частка жыцьця сьв. Язафата, а менавіта часу, калі фармаваўся з Язафата Кунцэвіча "eximius Vir Dei", прайшла менавіта ў Вільні. У надзеі, што некалі іншы, больш пакліканы біёграф Сьвятога, на аснове новых і на грунце раней зробленых досьледаў, дакладна асьвятліць гэты цікавы перыяд з жыцьця сьв. Язафата, я пакіну доўгі ўступ і падам даслоўна некалькі, можа, зусім невядомых, або мала вядомых падрабязнасьцяў з жыцьця і ўшанаваньня сьв. Язафата ў Вільні.

*Аўтар гэтага артыкулу — адзін з ідэолагаў і пачынальнікаў беларускага хрысьціянскага руху XX ст. каталіцкі сьвятар Уладзіслаў Талочка (1887-1942), які доўгі час жыў і працаваў у Вільні. У друку часта выступаў пад псеўданімам Адам Саладух.*

*Айцец Уладзіслаў Талочка быў актыўны ўдзельнік унійнага руху ў Заходняй Беларусі. Быў асабіста знаёмы і падтрымліваў шырокія кантакты з украінскім грэка-каталіцкім мітрапалітам Андрэем Шаптыцкім. Шмат навукова-гістарычных, рэлігійных і культуралагічных артыкулаў а. Талочкі друкавалася ў розных еўрапейскіх выданьнях. Гэты артыкул айца Ўладзіслава Талочкі, прысьвечаны гісторыі шанаваньня сьв. Язафата ў Вільні, упершыню быў надрукаваны ў 20-ыя гг. ва ўкраінскім часопісе «Ніва», а пазьней — у Запісках Закону сьв. Васіля Вялікага.*

Манаграфіст колішняга Віленскага ўніверсітэту, аўтар трохтомнага твору "Uniwersytet Wileński 1579-1831" (Kraków, 1899-1900), Язэп Бялінскі, згадвае месцамі пра перыяд студыяў Сьвятога ў Віленскім універсітэце, як таксама і пра некалькі твораў, напісаных у гонар Сьвятога віленскімі прафесарамі.

Найзнакамітыя прафесарскія сілы Віленскай Акадэміі праслаўлялі сьв. Язафата і пяром, і словам. А. Войцех Цецішэўскі, Т.І.[*Таварыства Ісуса — рэд.*], якога праз ягоную вучонасьць называлі "другім Аўгусьцінам", прамовіў, а затым выдаў друкам казаньне ў базыльянскай царкве ў Вільні з нагоды ўрачыстасьцяў у гонар блаславёнага Мучаніка Язафата (Вільня, друк Акадэміі 1642, 4°). Айцец Валянцін Бяловіч, Т.І., прафесар гуманістыкі і аўтар лацінскіх вершаў, якога ўсе называюць "красою сям'і Лаёлы", выдаў ананімна ў гонар сьвятога Архібіскупа "Epinition dum sacrum Corpus B. Josaphati Archiepiscopi et Martyris Vilnam ab exitio inveheretur" (Wilno, druk Akad. T.I. 1667 Anonyme). Апавядаецца тут пра перавязеньне мошчаў, спрычыненае нападам Масквы на Літву.

Больш зьвестак, якія непасрэдна стасуюцца асобы сьв. Язафата, падае Бялінскі (на 164 стар. цыт. твору): "Fabrycyusz Walenty, S.J., Rusin, profesor Uniwersytetu Wileńskiego. Był profesorem wymowy w różnych kollegiach lat 8, filozofii 3, teologii 5. Najdłużej nauczał w Wilnie. Prócz głębokiej nauki i rzadkiej pracowitości, pamiętnym jest tem najwięcej, że wykładając teologię w Wilnie po łacinie, powtarzał ten sam przedmiot po słowiańsku Józefowi *(sic!)* Kuncewiczowi, klerykowi wówczas i studentowi Akademii, późniejszemu Arcybiskupowi połockiemu umęczonemu za wiarę w Witebsku w r. 1623. Podobnież inny uczeń Fabrycyusza, Józef Welamin Rudzki, przyszedł z czasem do wysokiej godności metropolity. Fabrycy Walenty wiele pracował około zjednoczenia Rusi z kościołem rzymskim. Uczeń jego Kuncewicz, będąc arcybiskupem, użył go do urządzenia karności zakonnej Bazylianów na Litwie. Ostatnie lat ośmnaście był kaznodzieją nadwornym Zygmunta III i umarł w Warszawie 8 marca 1626 roku".[1]

Язэп Броўн (Brown) піша, што Валянцін Фабрыцый называўся ў сапраўднасьці Kowalsky Walenty Groza і што ён ва ўзросьце 17 гадоў ўступіў у кляштар у Яраславе ў 1580 г., хутка асьлеп і ня мог чытаць, цудоўна прапаведаваў. У творы "De claris oratoribus sarmaticis" (Варшава, 1752, 12°) згадвае пра яго Szymon Starowolski, што "kaznodzieja królewski tak wymową potężny, że w umysłach słuchaczów zawsze jakby kolce zostawował". Паводле Броўна, памёр Фабрыцый 22 лютага 1628 г.

З ягоных друкаваных твораў Бялінскі згадвае толькі пра адзін: "Kazanie albo kolęda, którą dal w Warszawie w kościele św. Jana stanom panieńskiemu, senatorskiemu X. Walenty Groza Fabrycyusz, Th. S.J. w dzień Trzech Królów 1622 roku" (Kraków, Cezary 1622, 4°, 3, 22; 1648, 4°, 34).

Такім быў той, якому выпала незвычайная годнасьць – быць прафесарам Сьвятога.

Іншы з сучасных яму прафесароў, Мікалай Кміціц, Т.І., вучыў паэтыцы і сам быў адным з лепшых лацінскіх вершатворцаў XVII ст. у Рэчы Паспалітай. Быў ён вучнем Сарбеўскага – Гараця Рэчы Паспалітай. Славу ён здабыў сабе праз выданьне паэмы "Josaphatidis sive de nece Josaphat Kuncewicz Archiepisc. Polocens. Vilnae 1627, 8°, 95". Гэтая паэма ахоплівае тры кнігі (225 с.), а зьместам яе ёсьць мучаніцтва сьв. Язафата Кунцэвіча. Ня ведаем, чаму аўтар не падпісаўся, а толькі выдаў пад імем Базыльяніна, Язафата [І]саковіча.

Вялікая сваёю сьвятасьцю постаць Архібіскупа-Мучаніка захвоціла Станіслава Касінскага, Т.І., прафесара тэалогіі ў Вільні, напісаць і выдаць твор "Żywot i męczeństwo Bł. Josaphata Biskupa i Męczennika szerzej zebrane przez X... S.J., teraz dla pospolitego wiernych zbudowania, krótko do druku podane, przez jednego kapłana tejże Societatis" (Wilno, druk Akademii S.J. 1665, 4°, 232 ст.).

Ды ня толькі сярод прафесароў меў наш Патрон сваіх шанавальнікаў. Да пашырэньня ягонай гславы спрычыніліся таксама найвыдатнейшыя вучні віленскай Акадэміі. Сярод іх Мельхіёр Савіцкі, Станіслаў шляхціч Cholewa, д-р філ. і вольных навук, які быў па чарзе лоўчым, старастаю, а напрыканцы кашталянам, муж,

які валодаў шабляю, як і пяром, выдаў паэтычны твор "Primitiae honorum B. Josaphati Kuncewicz Archiep. Poloc." (Wilno 1649, 4°, 468 ст.).

Усё гэта яскрава сьведчыць, што Вільня, адразу пасьля мучаніцкай сьмерці сьв. Язафата, пасьпяшалася з такім ушанаваньнем, якое толькі магла ўчыніць.

Некаторыя падрабязнасьці, якія найперш стасуюцца царкоўнага шанаваньня сьв. Язафата, можна знайсьці ў творах а. Яна Курчэўскага, найлепшага знаўцы Віленскае дыяцэзіі. Адносна найболей фактаў-згадак да нашае тэмы можна знайсьці ў трохтомнай працы гэтага гісторыка пад тытулам "Kościół Zamkowy czyli Katedra Wileńska" (Wilno 1916, drukiem Józefa Zawadzkiego). Найбольш каштоўны матэрыял знаходзіцца ў III т. таго ж твору, які падае зьмест актаў віленскай капітулы. Пры пасярэдніцтве і намаганьнямі мітрапаліта Русі Рафаіла Корсака, які жыў тады ў Вільні, 15 траўня 1636 г. тут было распачата сьледзтва пра цуды сьв. Язафата (Acta Venerebilis Capituli Vilnesis, vol. X i XI, pag. 264). 2 кастрычніка на сьледзтва ў Полацак выслана, праз адсутнасьць іншых членаў, крылаш. Шчыта, а 12 чэрвеня наступнага году мітрапаліт просіць віленскую капітулу, пасьля інструкцыяў Апост. Сталіцы, пра дэлегаваньне сваіх членаў на сьледзтва ў Полацак для дасьледаваньня цудаў сьв. Язафата. Капітула дэлегавала крылашанаў Шчыта (другі раз) і Сяляву[2].

19 чэрвеня 1665 г. па даручэньні мітрапаліта Календы, віленская капітула піша лісты ў Рым з просьбаю пра кананізацыю бл. Язафата, полацкага архібіскупа. 22 верасьня 1667 г., ад імя мітрапаліта Календы а. Жахоўскі, магістар Базыльянаў, просіць капітулу, каб прысутнічала пры суправаджэньні цела бласл. Язафата ў Вільню, як таксама пры ўступленьні таго ж мітрапаліта, у дзень 25 верасьня, на сваю катэдру. Капітула паабяцала ўзяць удзел "debito ordine et apparatu". 26 верасьня таго ж году віленская капітула пастанаўляе наладзіць працэсію да мошчаў бласл. Язафата на дзень 28 верасьня, каб аказаць пашану гэткаму годнаму госьцю і выразіць сваю еднасьць і любоў у дачыненьні да ўніятаў. 13 кастрычніка капітула зачыняе сесію з-за свайго ўдзелу ў працэсіі пры суправаджэньні цела бласл. Язафата з Вільні. Такім чынам Вільня мела шчасьце на працягу трох тыдняў (26 верасьня – 13 кастрычніка) захоўваць у сваіх мурах сьвятыя мошчы Вялікага Мучаніка.

5 студзеня 1680 г. па просьбе Базыльянаў віленская капітула абвяшчае пра перанос урачыстасьці бласл. Язафата, якая адзначалася да гэтага 12 лістапада, на дзень 16 верасьня. Гэты перанос зроблены на падставе дэкрэту Кангрэгацыі ад 2 верасьня 1679 г., якім быў зьменены дэкрэт ад 16 траўня 1643 г.

Калі папа Урбан VIII у 1643 г. залічыў сьв. Язафата да блаславёных, абвяшчэньне гэтага, гэтак жаданага Вільняю дэкрэту, сьвяткавалася вельмі ўрачыста ў прысутнасьці караля Ўладзіслава IV і шматлікіх царкоўных і сьвецкіх дастойнікаў. Гэтую ўрачыстасьць суправаджалі шматлікія ілюмінацыі і народныя забавы.

Катэдральная скарбніца ў Вільні валодае сярод іншых шматкаштоўных памятак па-мастацку вырабленым срэбным рэліквіярам аўгзбургзкае работы ў выглядзе саркафагу, з мошчамі сьв. Язафата (значная частка). Гэты рэліквіяр без сумніву паходзіць з XVII ст., нават вельмі праўдападобна, што з таго часу, калі мошчы сьв. Язафата знаходзіліся ў Вільні пры перавозе з Полацку да Белай, г. зн. у 1667 г. У Вільні была аддзелена пэўная часьціна іх для віленскай катэдры на гарачыя просьбы пабожных віленскіх вернікаў. На пачатку, як вышэй згадана, урачыстасьць сьв. Язафата адзначалася ў Вільні 12 лістапада, г.зн. у дзень, які прызначыў Patronatus Poloniae et Sueciae, але з 1679 г. віленская катэдра сьвяткавала гэтую ўрачыстасьць у асаблівы спосаб, хоць sine officio, у дзень 26 верасьня. Гэты звычай захоўваўся праз два з паловаю стагоддзі, і толькі падчас апошніх мадыфікацыяў дыяцэзіяльнага календара гэтая ўрачыстасьць устаноўлена на дзень 14 лістапада, калі ўся Каталіцкая Царква адпраўляе Яго Службу (officium). У адпаведным месцы гэтага календара чытаем з году ў год: "In Eccl. Cathedr. cantatur Missa sollemnis cum Gloria, Credo; finita Mis. fit processio cum Reliquiis S. Jozaphat". У гэты дзень біскуп або адзін з пралатаў ці катэдральных крылашанаў, у суправаджэньні шматлікага духавенства, адпраўляе ўрачыстую Службу Божую, у часе якой стаіць гэты малы саркафаг з мошчамі біскупа-мучаніка на срэбных, пакрытых чырвонай матэрыяй ношах у празьбітэрыі перад галоўным прастолам катэдры. Пасьля Службы Божай адбываецца ў катэдры працэсія, у якой 4 дыяканы ў чырвоных дальматыках нясуць згаданы саркафаг на рамёнах, а духавенства сьпявае трапар мучаніка.

Віленская дыяцэзія мае акрамя гэтага адну царкву, пасьвячаную ў гонар сьв. сьвятамучаніка Язафата – у Заневічах (Абрэмшчына) Гарадзенскага павету. Яе збудаваў Бажэцкі, а ў 1917 г. там створана парафія. Каб толькі пабудаваныя цэрквы і капліцы часьцей бралі сабе за Апекуна нашага Сьвятога!

Колькі прастолаў і абразоў сьв. Язафата ёсьць у віленскай дыяцэзіі, пра гэта ня маем дадзеных. Вільня, на жаль, ня мае ніводнага, хоць дзе, як не тут, ён павінен быць! Нам вядома, што ёсьць прастол і абраз,сьв. Язафата ў парафіяльнай царкве ў Горадні (у правай наве), нават добрага пэндзьлю і субтэльны ў малюнку (14 лістапада адпраўляецца там урачыстая Сл. Божа). Біскуп-Мучанік тут у архірэйскіх рызах, але стылізаваных на лацінскі ўзор (мітра і жазло) і скамбінаваных фальшыва (у філоні, без саккаса!). Ёсьць уражаньне, што гэты абраз нядаўняга часу. Мажліва, што ён належыць пэндзьлю Зянковіча, абразоў якога Горадня мае некалькі. У любым выпадку, як цікавае адрозьненьне падабенства Сьвятога, заслугоўвае гэты абраз на рэпрадукцыю.

Пра шанаваньне сьв. Язафата ў Вільні выразна сьведчаць некалькі харугваў з Ягоным абразом, якія штогод у дзень Найсьв. Еўхарыстыі з царкоўнай цені выносяцца на вуліцы і плошчы сталіцы Гедыміна, бліщчаць у промнях яснага сонца і ўрачыста ўзносяцца над шматтысячным натоўпам, сярод якога нямала знойдзецца нашчадкаў тых, душпастырам і біскупам якіх быў некалі ў Вільні і ў Полацку гэты Сьвяты.

[1] *"Фабрыцы Валенты, Т.І., русін, прафесар Віленскага Універсітэту. Быў прафесарам рыторыкі ў розных калегіях 8 гадоў, філасофіі - 3, тэалогіі - 5. Найдаўжэй навучаў у Вільні. Апрача глыбокай адукаванасьці і рэдкай працавітасьці, запомніўся найбольш тым, што, выкладаючы тэалогію ў Вільні на лаціне, паўтараў гэты самы прадмет паславянску Язэпу (sic!) Кунцэвічу, тагачаснаму клерыку і студэнту Акадэміі, пазьнейшаму Архібіскупу полацкаму, які быў замучаны за веру ў Віцебску ў 1623 г. Падобна і іншы вучань Фабрыцыя, Язэп Вельямін Руцкі, прыйшоў з часам да высокай годнасьці мітрапаліта. Фабрыцы Валенты шмат працаваў дзеля зьяднаньня Русі з царквой рымскай. Вучань ягоны Кунцэвіч, будучы архібіскупам, скарыстаў яго для ўвядзеньня дысцыпліны законнай у Базыльянаў на Літве. Апошнія гадоў васямнаццаць ён быў прыдворным казнадзеем Жыгімонта III і памёр у Варшаве 8 сакавіка 1626 году".*

[2] *Тут гаворка пра каноніка лацінскага абраду.*

(Друкуецца паводле Analecta Ordinis S. Basilii Magni. CCCL Anno a martyrio S.Iosaphat Vertente. Romae, 1973. P.10-14)

*Пераклад з украінскае І.Бараноўскага*



Слава Ісусу Хрысту!

Паважаная рэдакцыя газеты «Царква»! Піша вам студэнт вышэйшай Духоўнай Семінарыі ў Горадні. Вучуся на IV курсе і вельмі цікаўлюся разьвіцьцём і ўвогуле жыцьцём Грэка-Каталіцкай Царквы. Цікаўлюся ўсходнім абрадам і хацеў бы як мага больш пра яго даведаца. Ці не падкажаце мне, дзе можна купіць літаратуру па гэтым пытаньні, якое мяне цікавіць? Маю на ўвазе гістарычныя, літургічныя і тэалагічныя кнігі. Таксама хацелася б ведаць, дзе ў Горадні і ў Менску адбываюцца багаслужэньні, каб можна было прыняць у іх удзел, бо вельмі цікавіць літургія, якая, як ведаю, адбываецца на беларускай мове.

І апошняе. Якім чынам можна выпісаць вашу газету тут, у Горадні?

З павагай

**клірык Андрэй Быкаў**

г.Горадня



Слава Ісусу Хрысту!

Добры дзень, паважаная рэдакцыя газеты «Царква»! Гэты ліст да вас накіроўвае студэнт Гарадзенскай духоўнай семінарыі Віталь Марфель. Прычына напісаньня гэтага майго ліста да вас наступная. Часта да мяне трапляе вашая газета; спачатку я чытаў яе так, з цікавасьці, а потым усё больш і больш яна мне стала падабацца. Таму хачу выказаць некалькі думак наконт яе.

Вядома, што вашая газета ў першую чаргу павінна пісаць пра Унію, знаёміць чытачоў з яе гісторыяй, разьвіцьцём, з яе дзеячамі, з яе сучасным станам і перспектывамі. Але вельмі цешыць тое, што робіце вы гэта зыходзячы з аспектаў нацыянальна-рэлігійнага адраджэньня Беларусі, асьвятляючы сучасны канфесійны стан Бацькаўшчыны і ўзаемаадносіны паміж канфесіямі як у Беларусі, так і на міжнародным узроўні. Вельмі важна, што пішаце вы аб Уніі ў кантэксьце ня толькі сацыяльна-гістарычным, але і нацыянальна-гістарычным. Мы маем (я маю на ўвазе беларускі народ) вельмі багатую гістарычную і духоўную спадчыну. Наша нацыянальнае адраджэньне заўсёды йшло побач з духоўным. Але вельмі мала мы ведаем пра гісторыю роднага краю, а калі ведаем, то ў большасьці тое, што нам прапаноўвала «мудрае савецкае кіраўніцтва», ставячы на першае месца не канкрэтныя факты, падзеі, здарэньні, а іх «ідэалагічнае значэньне» ў кантэксьце «барацьбы класаў» і «спрадвечнага імкненьня беларускага народу жыць разам з нашым старэйшым братам». Таму вашыя артыкулы вельмі дарэчы для тых, каму неабыякавы лёс нашай Бацькаўшчыны, яе гісторыя, нацыянальна-культурная і духоўная спадчына.

Таксама мне вельмі падабаюцца артыкулы ня толькі пра Беларускую Грэка-Каталіцкую Царкву, але і пра іншыя каталіцкія Цэрквы ўсходняга абраду. Гэта таксама вельмі важна, бо гэтая інфармацыя малазнаёмая нават для нас, каталікоў як лацінскага, так і візантыйскага абраду, а што казаць пра іншыя канфесіі і людзей, што далёкія ад рэлігіі. Важна гэта і таму, што мы, рыма-каталікі, вельмі часта забываемся, што нашая Каталіцкая Царква — гэта ня толькі лацінскі абрад, але і шмат іншых, ня менш цікавых і прыгожых. Мы мала ведаем аб гісторыі гэтых Цэркваў, пра іх сучасны стан і перспектывы. І вашыя артыкулы ў гэтым вельмі дапамагаюць.

Шмат чаго цікавага пішацца ў вас і пра экуменізм, пра дыялог паміж канфесіямі. Прыемна тое, што газета выходзіць высокай якасьці — добрая папера, шмат здымкаў, ілюстрацыяў, добра, што яна каляровая. Вельмі прыемна трымаць у руках вашае выданьне. Дзякуй вам за гэта!

Але ў мяне ёсьць да вас просьба. Калі гэта магчыма, я хацеў бы атрымоўваць вашую газету па пошце, бо яна трапляе да мяне неперыядычна, час ад часу. Прыходзіцца пазычаць яе ў сяброў, а я хацеў бы атрымоўваць яе стала, кожны нумар. Калі гэта будзе мажліва — буду вам вельмі ўдзячны.

Жадаю вам далейшых посьпехаў!

З павагай,

**Віталь Марфель**

г.Горадня

**<u>Ад рэдакцыі:</u>**

Мы вельмі ўсьцешаны, што дзякуючы газеце «Царква» ў Беларусі расьце зацікаўленасьць Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквой, іншымі Ўсходнімі Каталіцкімі Цэрквамі. Асабліва радуе, што праяўляюць цікавасьць семінарысты, інтэлігенцыя.

Адказ на пытаньне, дзе і ў які час можна патрапіць на набажэнствы, а таксама атрымаць іншую інфармацыю пра беларускіх грэка-католікаў, вы можаце заўсёды знайсьці на тэматычнай старонцы «Катэдральны пляц». Праз рэдакцыю «Царквы» можна таксама замовіць літаратуру, якую выдае БГКЦ. Пра кошты мы не паведамляем, але спадзяемся, што кожны зробіць адпаведную ахвяру, якая яму па кішэні.

Цяжэй з падпіскай на газету. Нягледзячы на тое, што рэдакцыя стала перадае неабходныя зьвесткі на Белпошту і ўносіць штоквартальна 6000 руб. для ўключэньня ў каталог на падпіску як на краёвае выданьне, нашыя чытачы, асабліва па-за межамі Берасьцейскай вобласьці, увесь час маюць праблемы з падпіскай. Па нейкіх незразумелых для нас прычынах звесткі пра газету «Царква» зьмяшчаюцца, у лепшым выпадку, у дадатковым каталогу, у горшым — «забываюць» зрабіць і гэта, альбо ўносяцца ад рукі пасьля нашых настойлівых напамінаў. На кожнай няцотнай старонцы газеты, у ніжнім вуглу, мы пазначаем падпісны індэкс «Царквы», назваўшы які, газету можна выпісаць ва ўсіх аддзяленьнях сувязі Беларусі. Калі вы ня здолееце дабіцца гэтага на вашай пошце, просім паведаміць пра гэта ў рэдакцыю, мы аформім вам падпіску ў Берасьці або дашлем патрэбны нумар самі. Будзем рады, калі з газетай «Царква» пазнаёмяцца вашыя сябры і родныя.



Добры дзень!

Зьвяртаецца да Вас старшыня беларусаў-грэка-католікаў г.Каўнаса. Суполка беларусаў зарэгістравана і пачала дзейнічаць з траўня 1994 году, а ў траўні 1997 году арганізавалася парафія грэка-католікаў, якая налічвае 15 чалавек.

Богаслужэньні адбываюцца адзін раз на месяц. Іх праводзіць сьвятар Ян Даўкшыс, які прыязджае да нас з Вільні. Паўтары гады як існуе ў нас нядзельная беларуская школка, у якой займаюцца пяць вучняў.

З боку беларускага пасольства ў Літве падтрымкі мы ня маем. Літоўскія ўлады ў мінулым годзе выдзялілі 100 даляраў на школу.

Мэта майго ліста — наладзіць сувязь з грэка-каталіцкім біскупам беларусаў ці чалавекам, які яго замяшчае. Хацелася б наладзіць сувязь з грэка-католікамі мітраполіі і атрымліваць газеты і малітоўнікі для беларускіх грэка-католікаў.

З павагай

**Васіль Казлоўскі**

Адрас: пр-т В.Крэвес, 111-63, 3041 г.Каўнас, Літоўская Рэспубліка

**<u>Ад рэдакцыі:</u>**

На вялікі жаль, сп. В.Казлоўскі напісаў свой адрас ад рукі і да таго ж кірыліцай, а таму ёсьць небясьпека, што наш ліст можа не дайсьці да адрасата. Па пазначаных у лісьце тэлефонах мы таксама не змаглі выйсьці на беларускіх грэка-католікаў Коўна. Таму, калі гэты нумар газеты «Царква» да вас усё ж трапіць, просім удакладніць тэлефоны і адрас па-літоўску. Тады мы зможам дасылаць вам нашыя рэлігійныя выданьні.

Сёньня мы зьмяшчаем на с.15 вытрымкі з міжваеннага беларускага часопіса «Злучэньне», які асьвятляў тагачаснае ўніяцкае жыцьцё. Цікава было б даведацца, ці няма ў ковенскай грэка-каталіцкай грамадзе нашчадкаў міжваенных уніятаў. Але ў любым выпадку, у тым, што сёньня ў Коўна дзейнічае зарэгістраваная беларуская грэка-каталіцкая парафія, бачыцца духоўная лучнасьць з міжваеннай Уніяй, якая, нягледзячы на ўсе ейныя хібы, нават сёньня дае свае новыя парасткі ў Беларусі і за яе межамі.

## Міжваенная Унія

### ŠTO ČUVAĆ

"...U Koúnie niadaúna paústała unijackaja parafija. Pieršym nastajacielem jośé a. Tamaš Gelvegen, haduniec «Russicum» u Rymie."

*«Złučeńnie» (Варшава), № 3, 1938 г.*

### SUPRACOÚNICTVA BIEŁARUSAÚ U UNIJNAJ AKCYI Ú LITVIE

«U Koúnie supracuje vielmi čynna ú unijnaj akcyi z Preaśviaščennym Japiskapam Piatrom Bučysam viedamy biełaruski dziejač inž. Klaúdyjuš Dušeúski. Jak usiudy, tak sama i ú Litvie heta śviataja sprava natraflaje na šmat upiaredžań dy pieraškod».

*«Złučeńnie» (Варшава), № 11, лістапад 1938 г.*

Арыгінальны тэкст пададзены на беларускай лацініцы

**Падрыхтаваў Сяргей ЁРШ**
*г.Слонім*

## Беларускія грэка-каталіцкія асяродкі

| Назва парафіі | Горад | Сьвятар | Набажэнствы і рэлігійныя спатканьні | Душпастырскі цэнтр ці тэлефон для кантактаў |
|---|---|---|---|---|
| Сьвятога Яна Хрысьціцеля | в.Баброўчы Івацэвіцкага р-ну | а. Ігар Кандрацьеў | набажэнствы адбываюцца па папярэдняй абвестцы сьвятара | сп. Аляксандр Мялік в.Баброўчы |
| Сьвятых роўнапостальных Кірылы і Мятода | Баранавічы | а. Ігар Кандрацьеў | **супольная малітва ці сьв. Літургія:** серада, пятніца, нядзеля — 18.00 | вул.Міцкевіча, 65 тэл. (8-0163) 416-461 |
| | | | **сьв. Літургія:** нядзеля — 18.00, **будні дні — 19.00** **нядзеля, 16.00:** сьпеўны гурток, | вул.Дворнікава, 63 |
| Сьвятых братоў апосталаў Пятра і Андрэя | Берасьце | а. Ігар Кандрацьеў | **17.00:** катэхеза для дзяцей **серада, 19.45:** марыйныя набажэнствы **чацьвер, 19.45:** біблійны гурток **пятніца, 19.45:** Адарацыя Сьв. Крыжа **субота, 19.45:** Набажэнствы ў гонар Падляшскіх мучанікаў | тэл. (8-0162) 24-74-82 а. Ігар Кандрацьеў e-mail: bgkc_carkva@mail.ru |
| Уваскрасеньня Хрыстова | Віцебск | а. Пахом Кавалёў | **сьв. Літургія:** нядзеля, 16.00 | вул.2-я Войкава, 6а тэл. (8-0212) 36-18-33 |
| Трох сьвяціцеляў | Гомель | а. Пётр | **малітоўныя спатканьні:** нядзеля, 12.00 **сьв. Літургія:** па папярэдняй абвестцы | тэл. (8-0232) 55-79-03 сп. Андрэй Саладоўнікаў |
| Зьяўленьня Маці Божай у Фаціме | Горадня | а. дэкан Віктар Данілаў | **сьв. Літургія:** нядзеля — 10.00, падчас сьвятаў у будні дні — 18.00 **багаслоўскія канферэнцыі:** субота, 18.00 | вул.Гараднічанская, д. 32 а тэл. (8-0152) 33-24-50 а. Віктар Данілаў |
| Жыровіцкай іконы Маці Божай | Івацэвічы | а. Ігар Кандрацьеў | **сьв. Літургія:** у суботу, па папярэдняй абвестцы **супольная малітва:** нядзеля, 10.00 | вул.Чапаева, 26-1 тэл. (8-01645) 2-25-11 сп. Вячаслаў Гарчакоў |
| Сьвятога мучаніка Язафата | Ліда | а. Андрэй Абламейка | **сьв. Літургія:** субота, 14.00 **катэхеза:** серада, 16.00 | вул. Каліноўскага, д. 1[illegible] тэл. (8-01561) 45-000 |
| Бялыніцкай іконы Маці Божай | Магілёў | а. Пётр | **сьв. Літургія:** нядзеля, 14.00 **нядзельная школа:** нядзеля, 11.00 | Рыма-каталіцкі касьцёл Усьпеньня Багародзіцы (вул.Камсамольская, 4) тэл. (8-0222) 32-42-74 сп. Віктар Лосеў |
| Хрыста Чалавекалюбцы | Маладэчна | а. Андрэй Абламейка | **сьв. Літургія:** субота, 14.00 **супольная вячэрняя малітва:** будні дні — 18.00 нядзеля — 16.00 **катэхеза:** пятніца, 18.00 **катэхетычныя спатканьні для моладзі:** нядзеля, 10.00 | вул.Віленская, 44 тэл. (8-01773) 75-0 74 |
| Маці Божай Нястомнай Дапамогі | Менск | а. Казімір Ляховіч | **сьв. Літургія:** будні дні — 19.00, нядзеля — 9.00, 12.00 **панядзелак, 18.30:** біблійныя спатканьні **серада, 19.00** Акафіст да Маці Божай Нястомнай Дапамогі **чацьвер, 19.00:** маладзёвыя спатканьні **субота, 15.00, 17.00** рэлігійныя відэафільмы | Дольная капліца Чырвонага касьцёлу (пл. Незалежнасьці) тэл. (8-017) 251-06-00 220-47-89 а. Казімір Ляховіч |
| Сьвятога Язэпа | Менск | а. Андрэй Абламейка | **сьв. Літургія** нядзеля — 11.00, пятніца — 19.00 **нядзельная школка:** нядзеля 9.30 **заняткі хору:** нядзеля, 9.30 **біблійныя спатканьні для моладзі:** аўторак 18.00 **спатканьні і заняткі для скаўтаў:** чацьвер, 17.30 **споведзь,** пятніца 18.00 **катэхеза:** пятніца, 20.00 | пр-т Пушкіна, 50 тэл. (8-017) 244-76-22 сп.Анатоль Сёмуха; тэл. (8-017) 213-60-87 сп. Яўген Андросік |
| Сьвятога Кірылы Тураўскага | Пінск | а. Ігар Кандрацьеў | **супольная малітва:** нядзеля, 10.00 **сьв. Літургія:** па папярэдняй абвестцы | тэл. (8-0165) 36-36-65 сп. Лявон Вабішчэвіч |
| Сьвятога мучаніка Язафата | Полацак | а. Пахом Кавалёў | **сьв. Літургія:** нядзеля, 9.30 **евангельскія чытаньні:** серада, 19.00 **Акафіст:** нядзеля, 17.00 | вул Навасёлаў, 70 тэл. (8-02144) 44-509 сп. Мікола Шарах |

## Новыя друкаваныя выданьні, якія можна набыць праз рэдакцыю «Царквы» за ахвяру:

**БЛАСЛАВЁНЫ, ТЫ, ГОСПАДЗЕ!**
Юбілейны малітоўнік.

*Берасьце-Полацак, «Сафія», 2000. 48 с. Наклад 3000 асобнікаў.*

У гэтым юбілейным малітоўніку беларускія вернікі змогуць далучыцца да багацьця малітваў Усходніх Цэркваў.




**БОСКАЯ ЛІТУРГІЯ МІЖ СЬВЯТЫМІ АЙЦА НАШАГА ЯНА ЗАЛАТАВУСНАГА.**
Для вернікаў.

*Берасьце, рэдакцыя газеты «Царква», 2000. 44 с. Наклад 1000 асобнікаў.*

Зьмешчаны ў гэтым выданьні тэкст Боскай Літургіі сьв. Яна Залатавуснага прыстасаваны для патрэбаў вернікаў, якія толькі пачынаюць пазнаваць малітоўнае жыцьцё Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. У кнізе таксама зьмешчаны малітвы пасьля сьв. Прычасьця, малітва Сьвятога Айца Яна Паўла II на час сьвяткаваньня Вялікага Юбілею 2000 году і гімн «Магутны Божа».




Міхаліна.
**«ЖЫЦЬЦЯРЫС СЬВЯТОЕ ПАКУТНІЦЫ УНІІ»**

*Берасьце, рэдакцыя газеты «Царква», 2000. 44 с. Наклад 1000 асобнікаў.*

У цікавай і папулярнай форме распавядаецца пра гісторыю падрыхтоўкі і падпісаньне Берасьцейскай царкоўнай Уніі 1596 году, пра яе слаўных апосталаў і мучанікаў, якія прысьвяцілі сваё жыцьцё справе сьвятой Еднасьці Царквы Хрыстовай. Падкрэсьліваецца непарыўная сувязь паміж крыжовым шляхам, які выпаў на долю Уніяцкай Царквы, і складаным гістарычным лёсам усяго нашага беларускага народу.



# “Божа, адзінствам сагрэй...”

*3 сьнежня, у нядзелю, у дзень парафіяльнага сьвята грэка-каталіцкай грамады г.Берасьця, якая мае сваімі нябеснымі апекунамі сьвятых братоў апосталаў Пятра і Андрэя, уніяты з розных парафіяў Берасьцейшчыны адзначалі Вялікі Юбілей хрысьціянства.*

Апостал Пётр здаўна лічыцца апекуном і дабравесьнікам Заходняй, Рымскай Царквы, а ягоны родны брат, апостал Андрэй — дабравесьнікам і апекуном Усходніх Цэркваў. Абраз з выявай сьвятых братоў апосталаў Пятра і Андрэя, які падараваў Рымскаму Архірэю Паўлу VI Канстанцінопальскі патрыярх Атэнагор I падчас гістарычнага спатканьня ў Ерусаліме 5 студзеня 1964 году, стаў знакам прымірэньня пасьля многіх стагоддзяў варожасьці і ўзаемнай непрыязьні паміж католікамі і праваслаўнымі. Тады абодва першаярархі зьнялі адзін з аднаго праклёны, што заставаліся пасьля трагічнага падзелу Царквы Хрыстовай у 1054 годзе. Таму й невыпадкова, што ў горадзе, у якім была падпісана Берасьцейская царкоўная Унія 1596 году, парафія мае імя сьвятых братоў апосталаў Пятра і Андрэя.



Прывітаць і разьдзяліць з берасьцейскімі вернікамі іх сьвята прыехаў Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек, а таксама ўніяцкія вернікі з Івацэвічаў, Слоніму, Баранавічаў, Менску, Горадні і Маларыты. Айцец Візітатар прамовіў вельмі пранікнёнае і палымянае казаньне пра еднасьць і хрысьціянскую любоў.

А яшчэ віталі берасьцейцаў шаноўныя госьці з Менску: народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін і бард Алесь Камоцкі. Узрушвала душы ўсіх прысутных глыбокае, мілагучнае слова Р.Барадуліна, у сьветлым, сьвяточным храме рабілася яшчэ велічней ад вершаў Паэта і песень Алеся Камоцкага. Госьці з Менску падаравалі грэка-каталіцкім парафіям Берасьцейшчыны і Слоніма свае аўдыёкасеты «Псальмы» і ўсе — дарослыя і дзеці — атрымалі аўтографы, а каму пашчасьціла — кнігу ад Рыгора Барадуліна «Лісты ў Хельсінкі». Ды захацелася пакінуць свой аўтограф паэту, аўтару «Евангельля ад мамы». Здаецца, гэтую кнігу чытае сама Маці Божая...



*Сапраўды, што — Парыж...*
*і што — Рым.*
*Настальгічна гарым*
*і ў туманнай мы Англіі.*
*У далонях тваіх — «Евангельле*
*ад мамы».*

...У гэты дзень гучалі ў храме малітоўныя песьні ў гонар Ісуса Хрыста, Найсьвятой Багародзіцы. Шчырым і ўзьнёслым акцэнтам сьвята стала малітва за еднасьць хрысьціянаў, а таксама гімн еднасьці ў гонар сьвятых братоў апосталаў Пятра і Андрэя, які ўпершыню прагучаў на юбілейных урачыстасьцях у Берасьці і крануў сэрцы ўсіх удзельнікаў сьвята:

*Госпад Ісусе. Збавіцелю наш.*
*Ведаем. Божа. крыжовы Твой шлях.*
*Зьнішчы разлады і сілу нам дай*
*Славіць імя Тваё. Божа. і Край.*

*Божа. адзінствам сагрэй.*
*З намі — Пятро і Андрэй...*

**Сьвятлана Варонік**
*г.Берасьце*

**Рыгор БАРАДУЛІН**

## Берасьцейская вунія

*Каб народ набожны не зьняверыўся*
*Перад раздарожжам дзьвюх дарог,*
*Вернасьць зь вернасьцю*
*Сыйшліся ў Берасьці*
*У вадну, якую ўбачыў Бог.*

*І сыйшліся ціха два ў адно палі*
*Каласіцца вераю бацькоў.*
*Сьвечкі ў Рыме і ў Канстанцінопалі*
*Засьвіталі ў позірках вякоў.*

*Кленчыць цень крыжа перад іконаю.*
*Горбяцца зьняверу валуны.*
*І зьвіняць са дна душы сьвянцонае*
*Берасьцейскай вуніі званы.*

## Вуніяцкае сэрца

*Вуніяцкае сэрца гадуе трывогу*
*За балючую веру дзядоў і бацькоў.*
*Вуніяцкае сэрца спакорнае Богу*
*Б'ецца. быццам крыніца*
*Няспынных вякоў.*

*Вуніяцкае сэрца люляе надзею.*
*Спавівае лагоду малітвай штодня.*
*Не саб'ецца з дарогі ў людзкую завею.*
*Бо ў яго апякункай сама вышыня.*

*Вуніяцкае сэрца ратуе з адчаю,*
*Ад спакусы адводзіць.*
*Як дым ад агню.*
*Ніцай цемры зьняверу*
*Сьвятла пазычае.*
*Не зважае на зло. кволячы дабрыню.*

*Горкадумны палын засяляе аблогу*
*Летуценна аблокі ідуць пехатой.*
*Вуніяцкае сэрца заўдзячнае Богу.*
*Што яго адсланіў*
*Мілатою сьвятой.*

20 жніўня 1999
Вушацкая лякарня

**Адказы на крыжаванку «Апякун Беларусі» («Царква», № 3 (26), 2000):**

1. Ярдан. 2. Тэзэ. 3.Ружанец. 4. Неф. 5. Павел. 6. Катакомбы. (У чырвоным слупку імя апекуна Беларусі – Язафат).


Царква
*грэка-каталіцкая газета*
*№ 4 (27), 2000*

**Адрас рэдакцыі:**
вул.Дворнікава, 63
224014 г.Берасьце
Беларусь
Тэл. факс: (0162) 24-74-82

**Заснавальнік і выдавец:**
Берасьцейская грэка-каталіцкая парафія сьвятых братоў апосталаў Пятра і Андрэя
**Пасьведчаньне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 27.11.1997 г
**Галоўны рэдактар:** сьвятар Ігар Кандрацьеў
**Рэдактар:** Ігар Бараноўскі
**Падпісана ў друк:** 20 сьнежня 2000 году, а 19-30
**Паліграфічныя работы:** ПП В Ю.А. (пасьв. № 836). вул Мініна. 23-106. 220014 г Менск. **Замова №**
**Аб'ём** 2,0 ул.-выд аркушы **Наклад** 1850 асобнікаў.

*Наш разьліковы рахунак № 3015200210017 у Берасьцейскім філіяле № 2 ЗАТ “Абсалютбанк”, МФО 150501242*


*Газета выдаецца на ахвяраваньні. Шчыра дзякуем і молімся за ўсіх нашых ахвярадаўцаў!*